—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
19
ЛЮТАГА
1993 г.
№ 8 (3678)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ 3 рублі

## ХТО МЫ?

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ: «Няўжо не задумаюцца людзі, асабліва вяскоўцы, не перабяруць сваё жыццё год за годам, дзень за днём і не ўбачаць, што тыя, хто пазбавіў іх чалавечага жыцця, робяць усё, каб яны яго ніколі і не ўбачылі!»**

СТАРОНКА 4

## У ВЯНОК МАКСІМУ ГАРЭЦКАМУ

- **АНКЕТА «ЛіМа»: слова пра М. Гарэцкага кажуць Іван ШАМЯКІН, Сяргей ПАНІЗНІК, Барыс САЧАНКА.**

СТАРОНКА 5

- **«ДЗЕ ТАЯ ПРАЎДА, ДЗЕ ТАЯ МАНА...»: Алесь МАРЦІНОВІЧ — «Скарбы жыцця» М. Гарэцкага ў «Полымі».**

СТАРОНКІ 6—7

- **ШТРЫХІ ДА ШТРЫХА: Эмануіл ІОФЕ ўдакладняе некаторыя малавядомыя старонкі жыцця М. Гарэцкага.**

СТАРОНКІ 6—7

- **«ПАКАЗВАЦЬ БЕЛАРУСА СА ЎСІХ БАКОЎ...»: Барыс БУР'ЯН—М. Гарэцкі і тэатр.**

СТАРОНКА 10

- **«НАШ ДАРАГІ ПРЫХІЛЬНІК»: Язэп ЯНУШКЕВІЧ — М. Гарэцкі і беларуская аўтакефальная царква.**

СТАРОНКА 16

## ІНАКШ—НЕ ДАРУЕ ГІСТОРЫЯ

**Валеры ЖЫВАЛЕЎСКІ пра маладога гітарыста Уладзіміра ЗАХАРАВА і не толькі.**

СТАРОНКА 10—11

## РУСКАЯ КУЛЬТУРА, БЕЛАРУСКІ ХАРАКТАР І ЭКАНОМІКА

**Павел БІЧ: «Беларусы не сталі рускімі, нягледзячы на два стагоддзі найжорсткай асіміляцыі; проста ў іх выпрацаваўся ФАЛЬШЫВЫ тып культуры і чалавека, няздольных абараняцца ад эксплуатацыі і пагарды з боку суседзяў, якія адстаялі або адрадзілі за апошнія гады сваю культуру».**

СТАРОНКА 12

# ВЫСОКІ ПОДЗВІГ



**1893—1993**

Сёння мы адзначаем сотую гадавіну з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца і крытыка, дзеяча нацыянальнай культуры Максіма Іванавіча Гарэцкага.

Так здарылася, што рознабаковую, у вышэйшай ступені таленавітую творчасць гэтага мастака, якая выйшла з глыбінь народнага беларускага жыцця-быцця, вельмі цесна звязана з часам, які яе нарадзіў, мы адкрываем як бы нанава. І яшчэ далёка не разгадалі, не асэнсавалі, не аддалі належнай даніны гэтаму вялікаму мастаку і чалавеку.

Максім Гарэцкі — постаць велічная, дыяпазон ягонай творчасці вельмі шырокі, разнастайны, багаты.

Максім Гарэцкі працаваў на ніве беларускага нацыянальнага Адраджэння і вельмі добра ўсведамляў задачы, цяжкасці, перашкоды, якія стаяць перад кожным, хто адважыўся ісці па гэтым шляху. Ён належаў да так званай залатой пяцёркі, у якую ўваходзілі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля і нарэшце ён сам, Максім Гарэцкі.

Творчасць Максіма Гарэцкага не выбіваецца з рэчышча развіцця беларускай літаратуры «нашаніўскай» пары і 20-х гадоў. Шматлікія апавяданні, абразкі, замалёўкі пісьменніка вельмі блізкія па духу, татальнасці, скажам, да вершаў зборнікаў Янкі Купалы «Жалейка» і «Гусляр», да «Песняў-жальбаў» Якуба Коласа і ягоных апавяданняў, да абразкоў Змітрака Бядулі і, калі хочаце, да філасофскіх вершаў Максіма Багдановіча.

(Працяг на стар. 3)

# Кола Дзён

Беларусь пакуль не вырашыла — абіраць сабе прэзідэнта альбо не. А між тым на працягу апошніх некалькіх месяцаў мы назіраем сапраўднае спаборніцтва паміж прэс-службамі спікера парламента і прэм'ер-міністра, якія стараюцца ў найлепшым свеце паказаць сваіх шэфаў. Апагей (апафегей) гэтай барацьбы прыйшоўся якраз на мінулы тыдзень. Ну ці ж маглі ў прэс-службе спікера падумаць, што з радавой, здавалася б, падзеі — 75-годдзя П. Машэрава — іх саўмінаўскія калегі зробяць ледзь не сусветнага маштабу юбілей? Складальнікам гэтага «Кола Дзён», мяркуючы па рэспубліканскіх (саўмінаўскіх) газетах, праблем не было назваць «Свята тыдня», «Падзею тыдня», «Сустрэчу тыдня» і, вядома ж, «Публікацыю тыдня», а заадно і «Цытату тыдня», а таксама «Чалавека тыдня»... — усё магло быць звязана з нагаданым 75-годдзем. Не прыслухалася да дырэктыўных указанняў (як нагадвае гэта словазлучэнне пра застойныя часы!) толькі «Народная газета». За што, магчыма, і пацерпіць... Мы ж вітаем і падтрымліваем прынцыповую пазіцыю «НГ» і яе рэдактара. А калегам са спец-прэс службаў пажадаем плёну ў далейшай барацьбе за стварэнне, як зараз модна казаць, «іміджаў сваіх патронаў».

## СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

13 лютага ў Вярхоўным Савеце Беларусі адбылася нарада, прысвечаная барацьбе са злачыннасцю. Перад кіраўнікамі органаў правапарадку і прадстаўнікамі мясцовых улад выступіў С. Шушкевіч. Слоў няма: крымінальная абстаноўка ў краіне склалася блізкая да надзвычайнай. І пагаварыць пра гэта варта было. Але... каб хоць на дзень раней, чым у Маскве.

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

На чарговым Сойме БНФ абмеркаваны шэраг пытанняў, звязаных з вяртаннем КПБ на палітычную арэну. Падкрэслівалася, што легалізацыя дзейнасці кампартыі нясе прамую пагрозу нашай маладой дэмакратыі. БНФ заявіў, што не зможа прыняць удзел у З'ездзе беларусаў свету, бо ён павінен апраўдаць урад і Вярхоўны Савет Беларусі ў вачах сусветнай супольнасці. Крута, нічога не скажаш. Але ці адпавядаюць мэты барацьбы абраным сродкам? На з'езд прыедуць сотні беларусаў замежжа, найперш прыхільнікаў БНФ. І яны самі змогуць выказаць свае адносіны да кіраўніцтва «незалежнай» Беларусі.

## ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Яшчэ адной парламенцкай рэспублікай стала менш: у нядзелю ў суседняй Летуве прайшлі выбары Прэзідэнта. Ім, як і чакалася, стаў Альгірдас Бразаўскас, за якога прагаласавала 60 працэнтаў выбаршчыкаў. У якасці назіральнікаў за ходам выбараў у Летуве былі тры народныя дэпутаты Беларусі. Дарэчы, жонка А. Бразаўскаса прагаласавала не за мужа, а за яго праціўніка. Жаночую логіку не зразумець, але цікава ўсё ж ведаць: што гэта азначае?.. С. Шушкевіч павіншаваў А. Бразаўскаса з абраннем яго Прэзідэнтам Летувы і накіраваўся ў Вільню на святкаванне 75-годдзя Нацыянальнага дня Летувы... Дарэчы, свае адносіны наконт святкавання 75-годдзя БНР С. Шушкевіч пакуль не выказаў.

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

«Рэспубліка» пачала публікацыю дакументаў чэрвеньскага і ліпеньскага (1953 г.) пленумаў ЦК КПБ. На першым з іх партыя «самакрытычна прызнала» пралікі ў сваёй нацыянальнай палітыцы. «По вине ЦК КП Белоруссии и Совета Министров республики национальная форма культуры по целому ряду решающих разделов давным давно была утрачена». (З выступлення Патолічава). «Пленуму ЦК КПБ необходимо принять решение о том, что работа ЦК КПБ, Совета Министров БССР, местных партийных, советских органов должна вестись на белорусском языке. На белорусский язык должно быть переведено делопроизводство партийных и советских органов. Мы должны говорить с народом на его родном языке». (З выступлення Зімяніна). Арганізатарам і натхняльнікам беларусізацыі КПБ быў... Л. Берыя. Наступны (ліпеньскі) пленум быў прысвечаны злоўжыванням Л. Берыі. І «сур'ёзная размова», якая адбылася на папярэднім, адразу ж была забыта.

## ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

У пасёлку Калодзішчы каля магазіна № 10 інкасатарам Аксёнавым суботнім днём быў збіты народны дэпутат Рэспублікі Беларусь галоўны рэдактар незалежнай газеты «Свабода» Ігар Германчук. Што гэта было—хуліганства, злачынства альбо палітычная акцыя? Абставіны здарэння высвятляюцца.

## КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Месцам збору сродкаў для ўтрымання маўзалея Леніна стала... рэдакцыя газеты «Віцебскі рабочы». Грошы пойдуць на захаванне муміі правадыра ад эканамічнага «ўдушэння» з боку дэмакратаў. Былыя «органы... КПБ» усё смялей прыгадваюць пра сваіх гаспадароў і сваё «слаўнае» мінулае. Гэтак «Гомельская праўда» нядаўна вярнула на сваю першую паласу ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

# Беларусы на Украіне



Дагавор аб культурным супрацоўніцтве падпісваюць міністры культуры дзвюх краін Яўген Вайтовіч (справа) і Іван Дзюба.

**Дні культуры Рэспублікі Беларусь прайшлі на Украіне. У дзесяці буйнейшых залах Кіева гучалі беларускія мелодыі і звонкія цымбалы, спявалі «Песняры» і кружыліся ў вясёлай «Лявонісе» артысты Дзяржаўнага ансамбля танца.**

**Вынікам Дзён стала падпісанне дагавору аб культурным супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Украінай.**



Выступае Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь
Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ.

# Дзяржаўная мяжа, дзяржаўная мова

Завяршылася стварэнне адзінай сістэмы вывучэння беларускай мовы ў Пагранічных войсках Рэспублікі Беларусь. Штотыднёвыя заняткі з афіцэрамі і прапаршчыкамі ўсіх часцей і ўстаноў пагранвойск праводзяць па дамоўленасці настаўнікі мясцовых школ.

А самым галоўным настаўнікам беларускай мовы ў пагранічнікаў стала Таццяна Рагатка. Менавіта яна, кіраўнік беларускага класа сталічнай СШ № 90, выкладае свой прадмет афіцэрам Упраўлення пагранвойск Беларусі. «Двоек» Таццяна Міхайлаўна капітанам, маёрам і палкоўнікам не ставіць. Не толькі з прычыны адсутнасці школьных дзённікаў у апошніх, але і таму, што вучні ў яе цалкам здольныя.

І яшчэ адзін прадмет вывучаецца з гэтага года ў маладых пагранічных войсках — гісторыя Беларусі. Перад афіцэрамі і прапаршчыкамі ўпраўлення па гэтай тэме рэгулярна выступаюць вядомыя беларускія гісторыкі, навукоўцы. Для асабовага складу войск набыта неабходная колькасць дапаможнікаў «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі».

На пачатку бягучага года ва Упраўленні пагранвойск была разгледжана і ўдакладнена падпіска на перыядычныя выданні для пагранічнікаў. З лютага на кожную пагранзаставу, у кожнае падраздзяленне будзе прыходзіць газета «Наша слова».

Дзяржаўная мяжа фарміруе першае ўражанне прыязджаючых аб самой дзяржаве, і ў пагранічных войсках гэта добра разумеюць.

**Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ,**
**прэс-служба Пагранічных войск Рэспублікі Беларусь.**

# А КАРЫСЦЬ ЯКАЯ?

**Хай прабачаць тыя, хто меў дачыненне да арганізацыі рэспубліканскай нарады па законнасці і правапарадку, але тое, што ў іх атрымалася, больш нагадвала раённую партканферэнцыю. Мне здаецца, што саму ідэю нарады сапсавала празмерная прадстаўнічасць. Калі б старшыня парламента меў жаданне абмеркаваць становішча з законнасцю і правапарадкам у рэспубліцы з міністрамі і кіраўнікамі праваахоўных ведамстваў, гэта выглядала б цалкам натуральна. Але, акрамя іх, у вялікай актавай зале былога ЦК (што яшчэ больш умацоўвала падабенства да партсходкі) сабраліся старшыні абласных, гарадскіх і раённых Саветаў, начальнікі рэспубліканскіх і абласных упраўленняў унутраных спраў і КДБ, начальнікі аддзелаў МУС, пракуроры, старшыні адпаведных судовых структур. Зразумела, што радзіцца з поўнай залай не толькі нязручна, але і немагчыма.**

**Выступленні асобных кіраўнікоў праваахоўных ведамстваў былі мала інфарматыўнымі і змяшчалі больш папрокаў па адрасе Вярхоўнага Савета і іншых дзяржаўных структур, чым канкрэтных прапаноў. Хоць, так бы мовіць, запеўка, а калі больш дакладна, эмацыянальная і насычаная фактамі ўступная прамова старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі С. Шушкевіча нацэльвала на дынамічную, карысную гаворку. Пасля яго выступлення некаторым прамоўцам давялося на хаду мяняць напісанае дома і пераходзіць да больш канкрэтнай гаворкі.**

**Сур'ёзна С. Шушкевіч крытыкаваў Міністэрства ўнутраных спраў. За мінулы год асабовы склад міліцыі вырас з 10 да 16 з паловай тысяч, але прыкметна гэта на барацьбу са злачыннасцю не паўплывала, крымінальная абстаноўка у рэспубліцы застаецца сур'ёзнай. Калі выкрыццё злачынстваў у Расіі ў мінулым годзе склала 29 працэнтаў, то нашы органы вышэй 20 працэнтаў не падняліся. Па словах старшыні парламента, на трэць узрасла злачыннасць сярод саміх супрацоўнікаў МУС. Сярод гэтых злачынстваў ёсць і згвалтаванні, і крадзяжы, і дарожна-транспартныя здарэнні з ахвярамі.**

**Апошнім часам быў прыняты шэраг законаў, якія павінны былі паспрыяць паляпшэнню працы нашай міліцыі. Напрыклад, прыкметна павысілася зарплата работнікаў МУС. Там, напрыклад, сёння начальнік раённага аддзела міліцыі атрымлівае столькі ж, колькі прафесар, доктар навук. А ці прынесла гэта адпаведную аддачу?**

**Не ўсё робіцца міліцыяй, каб як след абараніць суверэнітэт Беларусі. У кастрычніку мінулага года супрацоўнікі расійскіх органаў унутраных спраў бесперашкодна затрымалі на тэрыторыі Беларусі некалькі нашых грамадзян. Вольна сябе адчуваюць у нас, бывае, і літоўскія спецслужбы.**

**Прагучалі нараканні і па адрасе судоў, мытні і мясцовых Саветаў.**

**На жаль, у сваіх выступленнях прадстаўнікі згаданых Старшынёй Вярхоўнага Савета грамадскіх інстытутаў даказвалі, што віноўныя ў недахопах не яны, а хтосьці іншы. А начальнік Упраўлення ўнутраных спраў на транспарце спадар М. Чаргінец не знайшоў нічога лепшага, як сказаць:**

**— Некаму выгадна, гуляючы на лічбах павелічэння злачыннасці ў міліцыі, гаварыць аб тым, што яна не здольна кантраляваць крымінальную сітуацыю.**

**На вялікі жаль, прыкладна ў такую ж «разбіралаўку» час ад часу ўвязваліся і іншыя прамоўцы. Таму нейкіх пэўных вынікаў, здаецца мне, нарада нам з вамі, простым грамадзянам, не прынесла.**

**Яўген ЛЮТЫ.**

# ДА ЎВАГІ

## КІРАЎНІКОЎ І ЎЛАДАЛЬНІКАЎ УСІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, ФІРМ ДЫ АРГАНІЗАЦЫЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**25 сакавіка гэтага года спаўняецца 75 гадоў з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Гістарычнае значэнне тае падзеі немагчыма пераболышыць: нават тады, у ваенны час, шэраг дзяржаў прызналі БНР. Тагачаснае абвяшчэнне самастойнай рэспублікі, ідэі і дакументы, якія суправаджалі гэтую падзею, выключна важныя і для сённяшняе нашай дзяржаўнасці: яны знайшлі адлюстраванне ў праекце новай Канстытуцыі Беларусі.**

**Для шырокага святкавання гадавіны гэтае падзеі нядаўна дэмакратычнымі грамадскімі арганізацыямі і рухамі рэспублікі быў створаны арганізацыйны камітэт, якім запланаваны шэраг святочных мерапрыемстваў як масавага, так і навукова-культуралагічнага характару, разлічаных на міжнародны рэзананс. Аргкамітэт звяртаецца да Вас і ў Вашай асобе да Вашага прадпрыемства ці арганізацыі з просьбаю дапамагчы сродкамі або матэрыяльна-тэхнічна ў святкаванні 75-годдзя БНР. Са свайго боку абяцаем арганізаваць у час святкавання адпаведную рэкламу Вашаму прадпрыемству і Вашай прадукцыі.**

**Сродкі трэба пералічваць на разліковы рахунак Гарадской Рады ТБМ № 700733 у Ленінскім аддзяленні Белбізнесбанка г. Мінска з прыпіскаю «На святкаванне 75-й гадавіны БНР». Кантактныя тэлефоны 360-909, 325-446.**

**АРГКАМІТЭТ.**

# АЧЫШЧЭННЕ — У ПРАЎДЗЕ

У рэспубліканскім друку з'явілася паведамленне аб тым, што група маці воінаў-афганцаў падала ў суд на пісьменніцу Святлану Алексіевіч. Зачэпкай для абвінавачання паслужыў спектакль купалаўскага тэатра «Цынкавыя хлопчыкі».

Дзіўныя справы Твае, о Госпадзі! Замест таго, каб прыцягнуць да суда сапраўдных віноўнікаў гібелі сыноў, а таксама тых, хто апяваў і дасюль апявае рамантыку «афганскай» вайны ў сваіх хлуслівых творах, няшчасныя маці судзяцца з пісьменніцай, якая першаю напоўнілася пачуццямі спагады і спачування да ахвяр гэтай злачыннай акцыі таталітарнай ваеншчыны, набралася мужнасці і цярплівасці, каб выслухаць іх ашаламляльныя нават і ў наш час галоснасці сваёю шчырасцю споведзі, а потым стварыць унікальную сваёй праўдзівасцю кнігу, дзе пастаралася з максімальнай дакладнасцю захаваць галасы сваіх герояў, не навязваючы ў аўтарскіх камен-арыях свае вывады, ашчаджаючы як мага пачуцці людзей, што даверыліся ёй. Праўда аб схаванай ад грамадскасці «афганскай» вайне ўзрушыла чытачоў, пра што сведчаць іх шматлікія водгукі, апублікаваныя нядаўна ў часопісе «Дружба народов» (1992, № 8), у рэспубліканскай прэсе. Менавіта гэтая «нелицеприятная» праўда выклікала спалох у шэрагах тых, хто адказны за гэтую народную трагедыю і хто ўсімі магчымымі і немагчымымі сродкамі імкнецца схаваць яе. У іх свой апрабаваны не раз у ранейшыя нядобрай памяці часы арсенал подлых сродкаў змагання з тымі, хто адважваецца першым выказаць праўду аб мінулым на поўны голас. На гэты раз яны выкарыстоўваюць вядомы яшчэ ў эпоху Понція Пілата спосаб, калі праведны гнеў простага люду накіроўваецца на ўласных абаронцаў і прарокаў. Зноў, як і ў мінулым, мы выяўляем сваю згоду з тым, што самі сябе закоўваем у ланцугі хлусні. Зноў судзім люстэрка, якое кажа нам праўду аб саміх нас. Судзім пісьменніцу, судзім беларускую літаратуру.

Беларускі ПЭН-цэнтр, сябрам якога з'яўляецца Святлана Алексіевіч, глыбока абураны гэтым чарговым актам барацьбы ўладных постсавецкіх структур за прэсу і расцэньвае яго як замах на свабоду слова і свабоду друку, як яшчэ адну спробу падмяніць былую партыйна-надзбіцкую цэнзуру цэнзурай так званага «общественного мнения». Беларускі ПЭН-цэнтр лічыць, што рух беларускага грамадства да нацыянальнага Адраджэння як да больш высокай і адэкватнай чалавечым імкненням форм палітычнай і эканамічнай арганізацыі вымагае свабоды публічнага абмеркавання ўсіх думак на старонках друку, на сходах і мітынгах, а не ў судзе. Беларускі ПЭН-цэнтр рашуча пратэстуе супраць судовага праследавання свайго сябра.

**ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСКАГА ПЭН-ЦЭНТРА.**

# ПОЦІСК РУК

## Заснаваны клуб беларуска-амерыканскай дружбы

На мінулым тыдні ў канферэнц-зале пасяджэнняў Прэзідыума Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь адбыўся сход навуковай і творчай інтэлігенцыі г. Мінска, на якім быў закладзены клуб беларуска-амерыканскай (ці амерыкана-беларускай) дружбы. Назва клуба, што вынесена ў загаловак, пакуль рабочая.

Ініцыятыва закладкі такога клуба зыходзіла ад кіраўніцтва Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны і Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Кіраўнік цэнтра і старшыня асацыяцыі спадар А. Мальдзіс, выступаючы перад прысутнымі, распавёў пра ўзнікненне такой ідэі і арганізацыйныя праблемы, якія трэба вырашыць. Як заўсёды, кіраўнік Скарынаўскага цэнтра здзівіў грамаду новымі звесткамі аб беларуска-амерыканскіх узаемасувязях, гістарычных падзеях. Стала вядома, што ў хуткім часе рыхтуецца да друку праца В. Кіпеля (Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку) «Беларусы ў Амерыцы», з якое беларускі чытач можа даведацца шмат цікавага і карыснага пра ўдзел суайчыннікаў па ўладкаванні амерыканскай культуры і навукі. З гісторыі вядома, напрыклад, што беларус Дзяржынскі заснаваў першую нью-норкскую гімназію; што Барыс Кіта разлічваў траекторыі палётаў першых амерыканскіх касмічных караблёў і г. д.

Прэзідэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь сп. Л. Сушчэня вітаў сход, падкрэсліў важнасць паразумення маладых пакаленняў беларусаў і амерыканцаў. «У руках моладзі — будучыня нашых краін, таму Акадэмія навук будзе толькі вітаць працу такога клуба», — падкрэсліў прэзідэнт.

З прапановамі па арганізацыі клуба выступілі начальнік упраўлення Міністэрства замежных спраў РБ, У. Шчасны, дацэнт кафедры замежных моў АН РБ сп. З. Перапяліца, намеснік дырэктара ННАЦ імя Ф. Скарыны сп. В. Рагойша, супрацоўнік Акадэміі навук, старшыня Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі В. Грыцук і інш. (Выступленні гучалі па-беларуску і па-ангельску. — Ю. Л.).

Супрэзідэнтамі клуба беларуска-амерыканскай дружбы грамада вылучыла і зацвердзіла Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ЗША ў Рэспубліцы Беларусь сп. Д. Суорца і сп. У. Шчаснага, віцэ-прэзідэнтамі — супрацоўнікаў Скарынаўскага цэнтра сп. А. Анціпенку і сп. Ю. Жалезку, а таксама сп. З. Перапяліцу.

Юрась ЛАГАДА.



# ГІСТАРЫЧНАЯ НАВУКА І АДРАДЖЭННЕ

I Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў «Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новая канцэпцыя і падыходы)», ініцыятарамі і арганізатарамі правядзення якой выступілі гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі, на заключным пасяджэнні была пераўтворана ў кангрэс, што прыняў рашэнне аб стварэнні Асацыяцыі гісторыкаў Беларусі. Тым самым робяцца сур'ёзныя захады па развіцці гістарычнай навукі дзеля патрэб нацыянальнага Адраджэння. Была ўнесена прапанова аб наданні гістарычнаму факультэту Беларускага дзяржаўнага універсітэта статуса навучальна-метадычнага цэнтра.

# ВЫСОКІ ПОДЗВІГ

(Пачатак на стар. 1).

Гэтак жа, як Янка Купала, Максім Гарэцкі трагічна ўспрымае жыццё. У яго творах вельмі многа нярадасных, драматычных малюнкаў, беларускае гора-бяда паўстае ў ягонай абмалёўцы ў поўны свой рост. Тэма неўладкаванасці, невыноснасці, нават трагічнасці вяковага жыцця ўвасоблена ў шматлікіх творах Максіма Гарэцкага: у драматызаванай аповесці «Антон», аповесцях «У чым яго крыўда», «Меланхолія», «Ціхая плынь», у шматлікіх апавяданнях, замалёўках, эцюдах. Малюнкі, вобразы гэтых твораў перарастаюць у трагічную тэму чалавека, народа, якому адмоўлена ў чалавечых правах, у магчымасці развівацца, па чалавечых і божых законах будаваць уласнае жыццё.

Дарэвалюцыйная беларуская проза небагатая ні пісьменніцкімі імёнамі, ні колькасцю і якасцю напісаных твораў. Жанры апавядання, навелы толькі-толькі прабівалі дарогу, прараслі першыя нясмелыя яшчэ парасткі аповесці і рамана.

Максім Гарэцкі адным з першых закладваў цагліны ў падмурак беларускай прозы. Ужо першы ягоны зборнік апавяданняў «Рунь» (1914) паказваў, як заўважылі акадэмік Карскі і паэт Максім Багдановіч, што ідзе мастак самабытны і глыбокі.

У наступных апавяданнях, аповесцях пісьменнік дэманстраваў высокую рэалістычную, псіхалагічную культуру, багатую эмацыянальную палітру, адчуванне «рэчавасці», «прадметнасці» жыцця, уздымаў глыбокія пласты гутарковай беларускай мовы, уздымаючы яе на ступень мовы літаратурнай.

Ёсць у дарэвалюцыйнага Гарэцкага апавяданні. якія па майстэрстве псіхалагічнага аналізу, культуры пісьма нават апярэджвалі ў некаторым сэнсе апавяданні нашага найлепшага празаіка Якуба Коласа. Я маю на ўвазе апавяданне «Літоўскі хутарок», напісанае ў 1915 годзе. Дый многія іншыя апавяданні, такія, напрыклад, як «Генерал», «Дзёгаць», «Чарнічка», камедыя «Жартаўлівы Пісарэвіч», упрыгожаць самую развітую літаратуру.

Тэма ўзаемаадносін інтэлігента, які выйшаў з сялянскага. народнага асяроддзя, і народа, драматычнасці, нават трагічнасці самавызначэння гэтага чалавека, бадай, галоўная ў творчасці Максіма Гарэцкага. Ні ў якога другога беларускага пісьменніка яна гэтак ярка, поўна, усебакова не ўвасоблена і не выяўлена.

Мала, вельмі мала часу падараваў Максіму Гарэцкаму лёс, каб да канца раскрыцца, рэалізавацца як пісьменніку, мастаку. У дваццаць адзін год ён выдае зборнік «Рунь», і тут жа выбухае першая сусветная вайна. Кровапралітныя баі ва Усходняй Прусіі, цяжкае раненне, бясконцыя шпіталі. Па выражэнні самога пісьменніка, «чатыры гады страчана». Для беларускай літаратуры яны, аднак, не прапалі безвынікова. Дзякуючы смяртэльным прыгодам вольнапіснага Гарэцкага мы маем запіскі «На імперыялістычнай вайне», твор, які можна паставіць на адну паліцу побач з сусветна вядомымі раманамі Рэмарка, Барбюса, Хемінгуэя, прысвечанымі той жа вайне.

І далей лёс не шкадуе Максіма Гарэцкага. Пасля ўтварэння БССР ледзьве паспявае ён разам з рэдакцыяй «Звезды» (тады яна выдавалася на рускай мове) перабрацца са Смаленска ў Мінск, як БССР робіцца Беларуска-літоўскай рэспублікай, а «Звезда» разам з супрацоўнікамі, у тым ліку Гарэцкім, перавандроўвае ў Вільню. Вільню ў хуткім часе акупіруюць палякі, Гарэцкаму з горада выбрацца не ўдаецца, ён выкладае беларускую літаратуру ў гімназіі, на розных курсах. Нарэшце, як «камуністычны агент», трапляе ў турму, у славутыя Лукішкі.

І зноў жа, чатыры віленскія гады не прападаюць марна для беларускай літаратуры. Яшчэ ў 1920 годзе Максім Гарэцкі стварае «Гісторыю беларускае літаратуры», бліскучую кнігу, што вытрымала чатыры выданні (сёння мы маем пятае) і не страціла ні свайго навуковага, ні пазнавальнага значэння. Дзякуючы дзейнасці Гарэцкага - падпольшчыка мы маем раман-хроніку «Віленскія камунары», створаную ўжо ў Вяцкай высылцы і напісаную вельмі мякка, хораша, чалавечна, без ніякай злосці на несправядлівыя ўдары лёсу.

Дзе б ні быў гэты чалавек, у якія б цяжкія абставіны ні трапляў, ён заўсёды і ўсюды самааддана, самаахвярна служыць беларускай ідэі і роднаму народу. З дзяцінства зачараваны беларускай народнай песняй, казкай, мастацкім словам беларусаў, якое дайшло да яго са старонак «Нашай Нівы», ён роднай літаратуры прысвячае жыццё. Па сваіх грамадскіх поглядах М. Гарэцкі быў сацыялістам і дэмакратам.

М. Гарэцкі нёс у нашу літаратуру праблемнасць, да якой, як справядліва сцвярджае крытык Д. Бугаёў, «не заўсёды ўзнімаліся яго папярэднікі і часткова нават паплечнікі на літаратурнай ніве».

Героі твораў М. Гарэцкага ўпарта імкнуцца дакапацца да ісціны, да пазнання сутнасці жыцця, таямніц чалавечай душы, бясконца разважаюць пра сэнс жыцця («адкуль свет, адкуль што»; «адкуль усё і што яны» і гэтак далей).

Пісьменнік-аналітык па складзе таленту, М. Гарэцкі як бы прывіваў нашай, у нядаўнім мінулым сялянскай літаратуры інтэлектуальна - філасофскую праблематыку, свядома ставіў перад сабой, як перад мастаком, задачу ўзбагачаць нацыянальную мастацкую традыцыю, уздымаць беларускую літаратуру да ўзроўню больш развітых літаратур. Не ўсё пісьменніку ў аднолькавай меры ўдавалася. Многае засталося на ўзроўні нарыса, замалёўкі, дакумента. Не трэба, аднак, забываць, што М. Гарэцкі актыўна жыў у беларускай савецкай літаратуры толькі ў 20-я гады, ад 30-х гадоў, калі пачалі нараджацца шырокія эпічныя палотны (раманы К. Чорнага, М. Зарэцкага, З. Бядулі), ужо быў адарваны. Адбываў высылку то ў Вятцы, то ў Пясочным. Тым не меней нават у тым, што ён напісаў у гэты час, ён як бы закладваў стылёва - жанравыя плацдармы для будучага развіцця беларускай літаратуры.

М. Гарэцкага любілі, сябравалі з ім, трымаліся як роўныя з роўным Янка Купала і Якуб Колас.

Прыходзіцца нават сёння здзіўляцца феномену М. Гарэцкага. Ён закончыў толькі каморніцкае вучылішча. Трохі павучыўся ў Археалагічным інстытуце ў Смаленску. Тым не меней быў бадай што самым адукаваным чалавекам сярод нашых старэйшых пісьменнікаў. Разам з братам Гаўрылам Іванавічам складаў першыя беларуска-рускія слоўнікі, пісаў крытычныя артыкулы, літаратуразнаўчыя працы, складаў для настаўнікаў выпісы па літаратуры, збіраў і друкаваў народныя песні нават з нотамі.

М. Гарэцкі з неадступнай увагай сачыў за развіццём розных плыняў маладой савецкай беларускай літаратуры. «Маладняк», «Узвышша», спроба стварэння беларускага «Лефа» па вобразе таго, які ўзначальваў Маякоўскі, іншых пісьменніцкіх груповак, займалі, цікавілі яго як крытыка і тэарэтыка літаратуры. І не толькі як крытыка і тэарэтыка. Пад крылом М. Гарэцкага, у той час, калі ён узначальваў кафедру беларусазнаўства Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, узмацнілася, расквітнела аршанская філія «Маладняка», паляцелі ў творчы вырай шматлікія маладыя таленты.

Цяжка пераацаніць значэнне для беларускай літаратуры, культуры такіх прац М. Гарэцкага, як «Маладняк за пяць гадоў. 1923—1928». «Беларуская літаратура пасля «Нашае Нівы», «Якуб Колас пасля Кастрычніка», «Наш тэатр», «Бядуля пасля Кастрычніка», «Вінцук Дунін-Марцінкевіч», «Доктар Францыск Скарына», «На ўгодкі па Багдановічу» і шматлікія іншыя — гэта цэлы наш літаратурны універсітэт.

Само кароткае жыццё Максіма Гарэцкага — суцэльны подзвіг. Высокі подзвіг служэння сваёй радзіме, народу, сваёй «матцы-зямлі Беларусь».

**Іван НАВУМЕНКА.**



1913 год.



1916 год.



1928 год.

# ЦІ ПАРАЗУМНЕЕМ...

Якія цудоўныя найменні давалі нашы продкі рэкам, азёрам, урочышчам! Такое ўражанне, што Палессе ў даўніну насялялі толькі паэты. Прыслухайцеся: Прыпяць, Ясельда, Гарынь, Стаход, Неслуха, Лань... А назвы вёсак? Вось толькі некаторыя з іх у Іванаўскім раёне: Дастоева, Дружылавічы, Моладава, Баравая, Вярхусце, Святаполка... За кожнай назвай стаяла нешта канкрэтнае. Мы і сёння можам пэўна сказаць, чаму вёску назвалі Заруддзе або Залядынне, Беразляны або Пясчанка.

Усё гэта—наша гісторыя. А ў гісторыі, як вядома, ніхто нічога не можа змяніць. І тым не менш знаходзіліся надзеленыя ўладай пустадомкі, якія сіліліся многае падправіць, змяніць. Яны не лічыліся ні з гісторыяй, ні з народнай памяццю. Прыкладаў таму — нямала.

Здаўна жыла-была на Палессі вёска Бясхлебічы. Яе хаты стаялі на пясчаным узгорку па правы бок старой брукаванкі Іванава—Пінск. Хаты, праўда, і цяпер стаяць, а вось вёскі з такой назвай ужо няма.

— Бясхлебічы? Хіба можа быць у сацыялістычнай краіне вёска з такой назвай? — рубам паставілі пытанне аматары выпраўляць гісторыю. — Трэба неадкладна замяніць гэтую жабрацкую мянушку!

І замянілі. Паляцеў пад адхон указальнік «Бясхлебічы», а на яго месцы ўстаноўлены новы — «Сасновічы». Дзякуй, што хоць не імя 26-ці бакінскіх камісараў.

Гадоў колькі таму мне давялося быць на сходзе ў калгасе «Зара камунізму», дзе на поўным сур'ёзе абмяркоўвалася пытанне аб перайменаванні вёскі Яечкавічы.

— Што гэта за назва?—абураліся ініцыятары перамен. — Калісьці тут балоты былі непралазныя... Толькі дзікія качкі плавалі... Людзі паляваннем жылі ды яшчэ яйкі збіралі.. Цяпер жа балот няма, а вёска так і засталася Яечкавічамі. Хіба ж можна крочыць у камунізм з такой недарэчнай назвай?

— А як жа мы яе назавём?—звярнуўся да вяскоўцаў старшыня калгаса І. Савенка.

Як нярэдка бывае ў такіх выпадках, першым да трыбуны падскочыў падхалім — невысокі шчупленькі чалавечак з адтапыранымі, як у кажана, вушамі:

— Усе мы паважаем нашага старшыню Івана Іванавіча. Давайце вёску назавём ў яго гонар — Іванаўкай.

У старшыні калгаса хапіла розуму не паддацца на гэтую спакусу:

— Калі іншых прапаноў няма, то няхай лепш старая назва застаецца.

Можа, гэта адзіны прыклад, калі задума з перайменаваннем правалілася. У большасці ж выпадкаў усё праходзіла без якіх-небудзь цяжкасцей. А мяняючы назвы вуліц наогул ніхто ні з кім не раіўся. Усё залежала ад абмежаванай фантазіі кіраўнікоў.

Па назвах нашых вуліц прыезджы чалавек ніколі не здагадаецца, што ён трапіў у беларускі горад. Вазьміце хоць наш раённы гарадок Іванава. Каб не адстаць ад моды, тры яго галоўныя вуліцы названы так: Леніна, Савецкая, Карла Маркса і далей: Камсамольская, Інтэрнацыянальная, Кірава, Фрунзе, Крупскай, Горкага, Калініна, Маладагвардзейская, 50 год Кастрычніка, Будзённага... А дзе ж тут што-небудзь беларускае? Ёсць! Вунь да рэчкі Самаранкі прытуліліся тры невялікія хаткі—гэта вуліца Янкі Купалы! Ах, якая шчодрасць да беларускага!

А ў Іванаве ж пахаваны наш знакаміты зямляк Напалеон Орда—добра вядомы ў Еўропе мастак. Усе мы павінны ганарыцца ім. Але што бяспамятным да гэтага. Яшчэ не так даўно, у застойны час, расшыраючы вуліцу Савецкую, магілу Н. Орды сцерлі з твару зямлі, нават надмагільную пліту, кажуць, выкарысталі пад фундамент нейкай пабудовы. Наўрад ці цяпер можна што-небудзь паправіць. Дык хоць бы кіраўнікі горада рашыліся назваць гэтую вуліцу імем вядомага земляка. Не. Ніхто не рашаецца. Маўляў, для гэтага патрэбны сродкі. Бачыце, калі мянялі гістарычныя назвы, тады аб матэрыяльных затратах ніхто нават не заікаўся. А цяпер — гэта галоўны аргумент—«трэба спачатку людзей накарміць, а потым за адраджэнне беларускасці брацца».

Няўжо ўсё ўпіраецца ў матэрыяльныя затраты? Не. Тут справа, як кажуць, больш далікатная. Многія кіраўнікі (яны і раней былі кіраўнікамі!) усё яшчэ спадзяюцца на зварот да нядаўняга мінулага. А той-сёй і пабойваецца. Вось жа і вершык ходзіць па людзях:

Товарищ, верь: пройдет она,
И демократия, и гласность,
И государственная
безопасность
Запомнит ваши имена.

Такім чынам, адраджэнне адкладваецца.

А тым часам мы з'яўляемся сведкамі новай хвалі найменаванняў. Як грыбы ў асеннім лесе пасля цёплага дажджу, растуць у суверэннай Беларусі розныя аб'яднанні, гандлёва-пасрэдніцкія прадпрыемствы. Якія ж ім даюцца найменні? Палюбуйцеся: «Багіс», «Інталс», «Віцына», «Галс», «Калібры». Гэты пералік можна доўжыць і доўжыць, але нічога беларускага тут не знойдзеце. То, можа, гэта ўсё заморскія фірмы, і гандлююць яны нейкімі экзатычнымі таварамі? Нядаўна я пацікавіўся, чым гандлюе, напрыклад, створанае ў Іванаве малое прадпрыемства з загадкавай назвай «Інталс»? Аказваецца, адходамі ад перапрацоўкі ячменю на саладавым заводзе, можна сказаць мякінай, якая ідзе на корм свінням. Затое назва якая!

Божа літасцівы, адкуль на нас такое насланнё? Ці паразумнеем мы калі?

**Аляксей КАЎКО.**

г. Іванава.

# «ЗАРАНКА» НЕ ПАВІННА ЗГАСНУЦЬ

Мы — бацькі адной з груп беларускага дзіцячага садка № 376 «Заранка» Савецкага раёна. Таго самага напаўлегендарнага садка, які яшчэ на пачатку 80-х гадоў дбаннем педагагічнага калектыву і бацькоў стаў — насуперак процідзеянню многіх гора-кіраўнікоў ад асветы — сапраўды беларускім. За гады стварыўся унікальны нацыянальны агмень, які вабіў беларускамоўных дзяцей і бацькоў з усяго горада. Шмат хто з нас, не зважаючы на нязручнасці, возіць сюды дзяцей здалёк — дзеля беларускамоўнага дзіцячага асяроддзя, якое дапамагае маленькаму чалавеку не страціць матчыну мову, захаваць сваю годнасць у чужамоўным акружэнні урбанізаванага жыцця.

У многіх садках цяпер прыкладаюць вялікія намаганні, каб хоць часткова стварыць для дзяцей нацыянальнае асяроддзе. А ў нас яно натуральнае, і па-беларуску гавораць усе супрацоўнікі — ад загадчыцы да кухара. Садок стаў жывым узорам таго, што паўнацэннае беларускае выхаванне ў горадзе не толькі магчымае, але і плённае, што пацвярджаюць шматлікія публікацыі, тэле- і радыёперадачы пра «Заранку».

Але зусім нечакана над далейшым існаваннем садка, ягонага калектыву і мікракалектываў навісла пагроза, якая лішні раз засведчыла абыякавасць бюракратыі да справы адраджэння беларушчыны.

Будынак вымагае рамонту. Кіраўніцтва нашага Савецкага раёна ўпарта настойвае на гадавым капітальным рамонце з размеркаваннем на час рамонту дзяцей па розных садках і частковым працаўладкаваннем выхавальнікаў. У выніку чаго садок нішчыцца назаўсёды.

Чыноўніку няма клопату, што парываецца шматгадовая традыцыя плённага выхаваўчага суладдзя дзяцей, бацькоў і выхавальнікаў. Чыноўнік накатае справаздачу пра «беларусізацыю», а сам цвёрдым росчыркам пяра знішчыць той жывы (і не ва ўсім яму паслухмяны) асяродак, у якім нармальна пачуваюцца і не комплексуюць беларускамоўныя дзеці.

Мы спадзяёмся, што нашыя дзеці не страцяць адзін другога, што іх не «раскідаюць» у чужамоўныя калектывы. Хацелася б верыць, што нацыянальныя прыярытэты ў выхаванні не з'яўляюцца чарговай бюракратычнай гульнёй... Давайце менш гаварыць пра Беларусь наогул, а зробім канкрэтную справу для маленькіх беларускамоўных жыхароў сталіцы — будучых годных грамадзян Беларусі.

**І. АДАМЧУК, В. БАБКОВА, Г. БАТАЛЬЁНАК, Т. ВАЎЧОК, А. ВЯЧОРКА, С. ЖЫНКІНА, В. ІВАШКЕВІЧ, усяго — 104 подпісы.**

г. Мінск.

# ХТО МЫ?

Мітынговая актыўнасць апошнім часам апусцілася практычна да нулявой адзнакі. І таму самы час, каб памяркоўна паспрабаваць асэнсаваць сённяшні дзень, паглядзець, якія здабыткі атрымаў дэмакратычны рух, якая яго чакае перспектыва.

Я разумею, што гэтым пытаннем займаюцца прафесіяналы-палітолагі, але і нам у звычайнай глыбінцы неабыякава, што адбываецца ў рэспубліцы.

Мяне асабіста цікавіць не знешні бок наступіўшага «штылю» ў грамадстве, а прычыны, якія прывялі да гэтага стану. Недзе ў глыбіні душы зведваю задавальненне ад гэтага «штылю», бо адчуваю фізічную і маральную стомленасць. Усё часцей з'яўляецца жаданне адгарадзіцца ад палітычнага вэрхалу ў друку, на тэлебачанні, на радыё.

Напэўна, гэта і ёсць галоўная прычына наступіўшага «штылю» ў грамадстве. Вычарпала сябе тая выбуховая эйфарыя палітычнай актыўнасці, якая ў свой час добра-такі напалохала партыйна-гаспадарчую камуністычную большасць у Вярхоўным Савеце, і яна прагаласавала за прыняцце некалькіх законаў (напрыклад, аб дзяржаўнай сімволіцы, аб дзяржаўнасці беларускай мовы), за якія б ніколі не прагаласавала б сёння.

Карыстаючыся вайсковай тэрміналогіяй, гэтая большасць вымушана была адступіць, але ў хуткім часе зрабіла перагрупоўку сіл і цяпер перайшла ў наступ. Утвораны палітычныя партыі і аб'яднанні камуністычнага вераспавядання, амаль цалкам падпарадкаваны кіруючым пракамуністычным структурам (як бы яны сябе ні называлі!) сродкі масавай інфармацыі.

А што датычыцца раённага друку, дык ён проста трапіў у аброць учарашніх камуністычных функцыянераў. Гэта вельмі добра бачна на прыкладзе слаўгарадскай раёнкі з архаічнай назвай «Ленінскае слова».

Рэдактарам газеты працуе В. Ігнатава — былы сакратар Слаўгарадскага РК КПБ па ідэалогіі. Тое, што яна перарэгістравалася ў ПКБ — гэта яе асабістая справа. Тое, што яна моліцца камуністычным ідалам — гэта таксама яе асабістая справа. Але тое, што яна ўвяла камуністычную цэнзуру ў газеце, якая з'яўляецца органам раённага Савета народных дэпутатаў,— гэта яскравы прыклад, чаго дамагаюцца гэтыя «абаронцы» народа.

Здзіўляцца гэтаму не трэба. Інакш яно і быць не можа, бо старшыня райвыканкама Л. Бубноў — былы другі сакратар Слаўгарадскага РК КПБ, а сярод членаў райвыканкама — учарашнія функцыянеры райкама. Вось і шчыруе рэдактар раёнкі ў створаных ёй умовах найлепшай спрыяльнасці, распаўсюджвае скампраметаваную камуністычную ідэалогію.

Уперадзе — новыя выбары. Няцяжка ўявіць, якую пазіцыю зойме раёнка пад кіраўніцтвам такога рэдактара, якая не мае, што граха таіць, прафесійнай журналісцкай адукацыі, але затое скончыла найвышэйшую навучальную ўстанову — ВПШ...

І непакоіць мяне думка: няўжо людзі вёскі настолькі абязволіліся і змірыліся, што ізноў прагаласуюць на выбарах за кандыдатаў ад камуністычнай наменклатуры? Няўжо ізноў прададуць свой лёс за бутэльку гарэлкі і кавалак кілбасы, якія ім абавязкова падкінуць напярэдадні галасавання?

Няўжо не задумаюцца людзі, асабліва вяскоўцы, не перабяруць сваё жыццё год за годам, дзень за днём і не ўбачаць, што тыя, хто пазбавіў іх чалавечага жыцця, робяць усё, каб яны яго ніколі і не ўбачылі? Няўжо не зразумеюць, што сваёй прыгоннай працай кормяць плойму дармаедаў-чыноўнікаў розных узроўняў, якія, каб захаваць свае пасады, існуючую сістэму, дураць іх, сцвярджаючы, што толькі калгасы гарантуюць людзям забяспечанае жыццё?

А чаму Вярхоўны Савет не прымае закон аб зямлі, які б гарантаваў роўныя правы і калгасніку, і фермеру, і землеробчаму кааператыву? Чаму нічога не робіцца з боку ўрада, каб выраблялася сельскагаспадарчая тэхніка і для фермерскіх гаспадарак?

Ды ўсё па той жа прычыне: каб сядзець на людскім карку! Бо калі вы адчуваеце сябе гаспадарамі, дык хутчэй зразумееце, што сапраўдны гаспадар вырашае сам, што яму рабіць. Пры існуючай сістэме чыноўнікі круцяць калгаснікам, як цыган сонцам.

Імпатэнтамі ад нацыянальнай культуры зрабілася большасць вясковай інтэлігенцыі — настаўнікі. Калі раней, у часы маладосці Янкі Купалы і Якуба Коласа, настаўнікі былі захавальнікамі нацыянальнай культурнай спадчыны і неслі гэтае багацце людзям, дык сёння нават выкладчыкі роднай мовы і літаратуры ўсяго толькі адбываюць свае гадзіны ў школе...

Неяк на адным з пасяджэнняў гарвыканкама разглядалі пытанне аб стане пераходу на беларускую мову навучання ў дзіцячых садках і школах, падначаленых гарадскому Савету. Усе пагадзіліся, што патрэбна ўтварыць у Слаўгарадзе Таварыства беларускай мовы. Выканкам гарсавета прапанаваў райана сумесна пачаць гэтую справу. Я выступіў у мясцовым друку, звярнуўся да выкладчыкаў роднай мовы і літаратуры, спадзеючыся, што яны адгукнуцца. Але ніхто не прыйшоў у гарсавет, каб абмеркаваць гэтае пытанне: ні выкладчыкі, ні кіраўніцтва райана.

Зрэшты, няма чаму здзіўляцца, бо не пачуеш у службовых пакоях райана беларускага слова. Дарэчы, чацвёрты год як беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай, а ўся справаздача ва ўсіх установах ідзе на рускай мове. Пячаткі ў Саветах з былым гербам, які не існуе...

І, крый Божа, калі змогуць прыхільнікі «великого и могучего русского языка» працягнуць у Вярхоўным Савеце закон аб двухмоўі, калі другой дзяржаўнай мовай стане руская мова! Застанецца тады беларуская мова і культура ў фальклорных ансамблях, як цікавая экзотыка для турыстаў з «белокаменной».

Людзі, задумайцеся: ХТО МЫ?

**Ф. ШКІРМАНКОЎ,**
**старшыня Слаўгарадскага гарадскога Савета народных дэпутатаў.**

# НА ШЧАСЦЕ, ЛІДЭРЫ Ў НАС ЁСЦЬ...

Нядаўна дыктар «Радыёфакта» з уласцівым яму штучным аптымізмам паведаміў нам, што ў Беларусі няма лідэраў, што ў выніку апытання пэўнага пласту чынавенства нашым лідэрам мог бы быць вядомы ўсім Назарбаеў. Да слова, сярод якасцяў мяркуемага прэзідэнта Беларусі забыліся на такія, як чэснасць і патрыятызм.

Нейкая рацыя ў адказах ёсць. Сённяшнія кіраўнікі Беларусі на лідэраў не цягнуць. Гадаванцы КПСС-КПБ, вышкаленыя партшколамі, яны маглі быць «важакамі» (быццам гамонка ішла пра гайню сабак ці воўчую зграю — тэрмін дужа тонкі) альбо «правадырамі».

Як вядома, палітычны лідэр гартуецца ў палітычнай барацьбе. Якая палітычная барацьба магла быць пры таталітарным рэжыме, калі ўсё вырашалася на паляваннях ды ў саўнах? Так і абыходзіліся мы адным непагрэшным «генеральным сакратаром». Але час памяняўся. Палітычнаму рынку сапраўды патрэбны лідэры. Думаю, што людзі з якасцямі беларускіх лідэраў у нас ёсць, не могуць не быць. І тое, што звонку іх як бы і не відаць, моцна насцярожвае. Ці не паказчык гэта моцнай ступені таталітарнасці нашага цяперашняга рэжыму? Ці не з'яўляецца ён атрутным для дэмакратыі і дэмакратычнага ўчынку? Блакіраванне апазіцыйных сіл сродкамі масавай інфармацыі краіны, эфірны імперыялізм суседняй дзяржавы — размыванне нашых нацыянальных інтарэсаў інтарэсамі чужых дзяржаў — усё гэта не спрыяе ідэнтыфікацыі сябе з якім-небудзь нацыянальным дзеячам. Такая небяспечная нам сітуацыя задавальняе непрыяцеляў беларушчыны ўнутры краіны і за яе межамі.

Вядома, калі няма лідэраў, то іхняму прэм'еру можна ляпаць нашага па плячы, выгаворваць яму за што-небудзь. Можна на самым высокім урадавым узроўні некальні разоў ездзіць у Маскву і там выпрошваць патрэбную нам нафту. Раз няма лідэраў, то лепей панургавым статкам пайсці ўслед за першым сустрэчным бараном — перачытайце Рабле, куды ён завёў.

На шчасце, лідэры ў нас ёсць. Пры дэмакратыі лідэр неабавязкова атаясамляецца з усёй нацыяй. Вунь на Захадзе колькі працэнтаў галасоў набіраюць на выбарах нават найбольш вядомыя? Часам ледзь болей за палову. А іх жа ведаюць усе! Што ж тут казаць пра нашых замоўчаных ды абылганых...

**Мікола БУСЕЛ.**

Светлагорскі раён,
в. Дуброва.

З ПОШТЫ АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ

## Анкета «ЛіМа»




**На пытанні, што тычацца творчасці Максіма Гарэцкага, ужо адказалі многія з тых, да каго звярнулася рэдакцыя. У сённяшнім, юбілейным нумары — працяг анкеты.**

**1. Калі і пры якіх абставінах адбылося ваша знаёмства з прозай Гарэцкага?**

**2. Што ў яго асобе і творчасці падаецца вам вызначальным, сугучным сённяшняму дню, блізкім вам асабіста?**

# «Нікому не кажы, што чытаў...»

1. Я — студэнт трэцяга курса Гомельскага тэхнікума будаўнічых матэрыялаў. Штудзірую тэхнічныя дысцыпліны, хімій розных было штук пяць. Але глытком паветра, радасцю для мяне была беларуская мова. Яе выкладаў Міхал Міхалавіч Сасноўскі — высокі, сутулы, нязграбны, але вясёлы, дасведчаны чалавек. Мы любілі яго, асабліва я, і ён адчуваў гэта. У нас Сасноўскі падрабляў, асноўная яго праца — у педтэхнікуме. Шчыры беларус, ён рыхтаваў настаўнікаў, якія маглі б выкладаць па-беларуску. Метода яго — дыктанты і сачыненні. Натуральна, у яго не хапала часу і сілы правярыць усе сшыткі, і ён, напэўна, не ўпершыню практыкаваў такую дапамогу сабе — запрашаў лепшага студэнта для праверкі сачыненняў і дыктантаў. Выбраў мяне. І я кожную нядзелю хадзіў да Сасноўскага ў яго драўляны дом і правяраў сшыткі. Праца пакутная: памылак процьма, ад чырвонага алоўка гарэла ў вачах. За работу атрымоўваў я, галодны студэнт, смачны абед і пяцёрку. Але была яшчэ адна ўзнагарода, можа, самая каштоўная: Сасноўскі даваў мне чытаць кнігі беларускіх пісьменнікаў, часам такіх, пра якіх я да таго не чуў. Браць з сабой не дазваляў, чытаў я ў кароткіх перапынках паміж праверкамі дыктантаў і ў гадзінным пасляабедзенным адпачынку, калі гаспадар, выпіўшы чарку, тут жа ў сваім маленькім кабінеце засынаў на канапе і смачна хроп.

Цяпер разумею: гэта быў высокі давер —даць мне Максіма Гарэцкага зімой 1938-39 гадоў. Не чытаў я — глытаў з прагнасцю: як можна больш!

Сасноўскі папярэдзіў, хаваючы кнігу: «Нікому не кажы, што чытаў Гарэцкага».

Гэта мяне скаланула, можа, і спалохала.

— А што, і ён — вораг народа?

— Браце ты мой, не ўсе ворагі, чые кнігі зніклі з бібліятэк. Людзі разбяруцца.

У наступную нядзелю я сам папрасіў пачытаць Гарэцкага. Сасноўскі прылажыў пальцы да вуснаў: маўчы! Але кнігу даў, папярэдзіўшы:

— Каб жонка мая не ўбачыла, а то апынецца кніжка ў грубцы.

Жонка асцерагала свайго рызыкоўнага «нацдэма».

У такіх умовах я ўпершыню пазнаёміўся з Максімам Гарэцкім. Пасля ажно 15 гадоў не мог раздабыць ніводнай яго кнігі.

Канец 1953 года. Мы з Пятром Глебкам атрымалі кватэры ў адным доме, у адным пад'ездзе. Суседства добра зблізіла нас, пра што я пісаў ва ўспамінах пра Пятра Фёдаравіча.

Я прыйшоў да яго, калі ён разбіраў сваю багатую бібліятэку, якая перажыла вайну. У кучы кніг я ўбачыў Максіма Гарэцкага, ажно тры зборнікі. І з дазволу Глебкі прачытаў іх з прагнасцю і ўвагай маладога пісьменніка, якому хацелася адкрыць **усю** беларускую літаратуру. Шчаслівыя сённяшнія маладыя, што маюць магчымасць **усё** адкрываць, **усё** чытаць без аглядкі!

2. Аб значэнні звароту Максіма Гарэцкага ў нашу класічную спадчыну хораша сказаў многа гадоў назад Алесь Адамовіч:

«Быццам вярнулася з далёкага небыцця ў сваю сістэму велізарная зорка і адразу пачала гравітацыйна ўплываць на ўсю сістэму і на кожную планету паасобку — і на тыя таксама, што з'явіліся, узніклі за час, пакуль зорка адсутнічала».

Што мне хочацца дадаць, адказваючы на пытанне? Я катэгарычна не прымаю агульнага адмаўлення, аплёўвання літаратуры савецкага часу, што спрабуюць рабіць некаторыя залішне заўзятыя звяргальнікі. Створана вялікая літаратура, якая складала і складае аснову нацыянальнай культуры. Без яе, без гэтай літаратуры, мы мусілі б пачынаць ледзьве не з нуля, з вытокаў, маючы глыбокі правал. Але прызнаем, што сацрэалізм многіх з нас рабіў рамантыкамі. Мы адступалі ад традыцый Купалы, Коласа, Гарэцкага, ад традыцый рускай класічнай літаратуры. А яны, гэтыя традыцыі, вымушаюць нас вярнуцца да суровага рэалізму, ды крытычнага рэалізму — да той высокай праўды аб жыцці народа, якая вызначальнай была ў творчасці нашых класікаў.

**Іван ШАМЯКІН.**

# Паперадзе нас

Адкрыў для сябе М. Гарэцкага ў Львове, дзе ў бібліятэках І. Свянціцкага, «Рідкісна кніга», навуковай кніжніцы імя Стэфаніка штовечар чакалі мяне творы-помнікі, якія яшчэ і сёння не заўсёды ўдаецца прачытаць у Мінску. Такім чынам курсант факультэта журналістыкі Вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча вяртаўся да беларускасці, змагаўся са сваёй псеўдаінтэрнацыяналісцкай замшэласцю. І «Гісторыя...» і «Хрэстаматыя...» М. Гарэцкага чыталіся нібы тэкст адваротнага боку медаля, за якім, здавалася, навечна была схавана вялізная спадчына нацыі. Потым, чытаючы «Камароўскую хроніку», завёў сабе сшытачкі для слоўніка, куды ўпісваліся каларытныя словы-жарынкі Максіма Гарэцкага. І як было сумна і няўцешна чытаць пасля Гарэцкага многія празаічныя рэчы іншых творцаў, дзе героі мовяць гэтаксама, як і сам аўтар, дзе не чутно жывога дыхання мовы — адно яе закалькаванасць, закратаванасць... Да таго ж — яна яшчэ была і прадыстылявана жорсткімі фільтрамі сацрэалізму.

Яшчэ больш прыцягальнай стала для мяне постаць М. Гарэцкага тады, калі, зацікавіўшыся беларускім культурнаасветным рухам у даваеннай Латвіі, нечакана выявіў яго прысутнасць у Дзвінску (Даўгаўпілсе). Пасля таго, як ён у студзені 1922 г. быў арыштаваны польскімі ўладамі, пасаджаны ў Лукішкі, а потым «без суда, са здзекам, быў выкінуты з Вільні ў нейтральны Пас паміж польскім і літоўскім фронтам» (гл. «Аўтабіяграфію» М. Гарэцкага), і апынуўся ў Коўне — яго ратаваў Канстанцін Барысавіч Езавітаў, аднагодак Гарэцкага, былы дзеяч БНР, на той час адзін з кіраўнікоў беларускага культурнаасветнага таварыства ў Латвіі «Бацькаўшчына», інспектар беларускіх пачатковых школ Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы Латвіі. К. Езавітаў «выпісаў» Ігната Дварчаніна з Вільні, а Максіма Гарэцкага з Коўна на летнія шасцітыднёвыя курсы Беларусазнаўства для настаўнікаў — будучых выкладчыкаў Дзвінскай і Люцынскай беларускіх гімназій. І вось у кнізе К. Езавітава «Беларускае культурна-асветнае т-ства Бацькаўшчына» (Рыга, 1932) бачу аблічча лектара М. Гарэцкага на фотаздымку, які падпісаны так: «Беларускія Дзяржаўныя Аднагадовыя Вучыцельскія Курсы ў першы год працы ў Дзвінску». Праз некалькі старонак аўтар К. Езавітаў змяшчае партрэт М. Гарэцкага з подпісам: «Максім Гарэцкі, аўтар «Гісторыі Беларускае Літаратуры», выкладчык літаратуры на Дзяржаўных Беларускіх Вучыцельскіх Курсах у 1922 г.»

Максім Гарэцкі ў Дзвінску напісаў апавяданні «Салдат і яго жонка», «Каменацёс», «Свецкі чалавек», «Не адной веры». Але мне хочацца адзначыць яшчэ адну вартасць тых дзвінскіх ратоўных для яго тыдняў. Ён перадаў у душы тамтэйшых беларусаў-асветнікаў такое свячэнне, якое, як прызнаецца 96-гадовы паэт і настаўнік з-пад Індры, і па сёння падтрымлівае ауру беларускасці на латгала-крывіцкім памежжы.

І я веру, што М. Гарэцкі не толькі з намі, але і паперадзе нас. І ў адраджэнні Краіны мы сыходзімся з ім усё бліжэй і бліжэй.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

# Працаваў да самазабыцця

1. У другой палове пяцідзесятых гадоў, дакладней, пасля XX з'езда партыі. Тады якраз ішла рэабілітацыя многіх, хто быў у свой час беспадстаўна арыштаваны, рэпрэсаваны. З падвалаў «спецхрана» падымаліся на свет божы кнігі, часопісы, газеты, якія праляжалі там, здавалася, вечнасць. Цэлыя горы! Частку іх я бачыў, калі заходзіў у кабінет беларускай літаратуры, што быў на другім паверсе ў Ленінскай бібліятэцы. У гэтым кабінеце працавалі дактары, кандыдаты навук, аспіранты, але знаходзілася іншы раз і мне, студэнту, месца. Менавіта там у тыя гады я пазнаёміўся ўпершыню з творчасцю многіх беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і з творчасцю Максіма Гарэцкага празаіка, крытыка, філолага.

У 1960 г. Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала невялікую кніжачку прозы пісьменніка пад назвай «Выбранае». Прызнацца, калі я прачытаў яе змест, аж узлаваўся — туды не трапілі лепшыя творы выдатнага мастака. У тым самым годзе Янка Брыль і Янка Скрыган запрасілі мяне на працу ў аддзел прозы часопіса «Полымя». І, прыйшоўшы туды, я адразу ж пачаў шукаць магчымасці пазнаёміць чытачоў як найпаўней з творчасцю любімага мною пісьменніка. На маю радасць, выявілася, што, апрача надрукаваных, выдадзеных яго твораў, было шмат зусім невядомых, яны ляжалі ў рукапісах. Прычым, многія з іх захоўваліся не толькі ў сям'і Максіма Гарэцкага, якая жыла ў Ленінградзе, але і ў архівах. Помню, якое незабыўнае, светлае ўражанне зрабіў на мяне раман «Віленскія камунары», — яго прывёз у рэдакцыю «Полымя», перадрукаваўшы, як умеў, адным пальцам на машынцы, былы рэдактар заходнебеларускага штоквартальніка Янка Шутовіч. Уразіў ён мяне перш за ўсё глыбінёй аналізу і паказам падзей, вобразамі, што паўставалі з яго старонак. І, вядома ж, мовай — крынічнай, жывой, сапраўды беларускай. Само жыццё, адвечнасць, здавалася, дыхалі з кожнага радка, кожнага слова. Па манеры пісьма, кампазіцыі, сувязі з мінулым, думках раман быў куды больш сучасны, чым многія з твораў, што ляжалі ў рэдакцыі, чакалі сваёй чаргі. Словам, для мяне «Віленскія камунары» былі падзеяй. Раман, на жаль, нялёгка клаўся на старонкі часопіса. Як, дарэчы, і іншыя творы Максіма Гарэцкага, што друкаваліся потым з яго літаратурнай спадчыны. Жылі яшчэ некаторыя з тых, хто імкнуўся зрабіць з пісьменніка «ворага народа», заганяў яго на той свет, хто не хацеў яго рэабілітацыі. Помню, як я, будучы дзяжурным па нумары, даказваў у Галоўліце, што адзначаныя чырвоным алоўкам мясціны ў гэтым рамане ніякай пагрозы савецкай уладзе не нясуць, іх трэба пакінуць. Не дапамагло! Калі раман быў надрукаваны, каб зняславіць пісьменніка, паднята было з архіваў пісьмо Максіма Гарэцкага Л. Жалігоўскаму — начальніку Сярэдняй Літвы, якое пісьменнік напісаў 1 ліпеня 1921 г. і ў якім прасіў дазволу на выданне штотыднёвіка «Беларускія ведамасці». Пісьмо гэтае ўстаўлена было ў даклад першага сакратара ЦК КПБ К. Т. Мазурава, які ён зачытаў на нарадзе работнікаў культуры, вось, маўляў, каго друкуе «Полымя». Не, у рэдакцыі часопіса не разгубіліся, там працавалі людзі, якія ведалі, што такое літаратура, што значыць для Беларусі Максім Гарэцкі. І рабілі ўсё, што ад іх залежала, каб творчасць яшчэ аднаго класіка дайшла да чытача. Імёны гэтых людзей не павінны быць забыты — гэта Максім Танк, Янка Скрыган, Іван Пташнікаў, Алесь Бачыла, Алена Шарахоўская. Шмат дапамаглі рэдакцыі Юльян Пшыркоў, Дзмітры Бугаёў, Максім Лужанін і асабліва дачка пісьменніка Галіна Максімаўна і брат Гаўрыла Іванавіч.

Разам з Галінай Максімаўнай, Гаўрылам Іванавічам, Юльянам Пшырковым і Дзмітрыем Бугаёвым мы рыхтавалі двухтомнік твораў пісьменніка, прабівалі яго праз самыя розныя інстанцыі. Некалькі разоў чытаў я, кожны раз захапляючыся зноў і зноў, «Камароўскую хроніку», рыхтуючы яе да публікацыі. Ганаруся, што і пяцітомнік Максіма Гарэцкага выходзіў не без майго ўдзелу. Максім Гарэцкі — вялікі пісьменнік, і, зразумеўшы гэта, я, як і некаторыя іншыя, рабіў усё дзеля таго, каб яго творы не хаваліся ад народа, а як найхутчэй трапілі да чытача. Каб імя яго ва ўсёй сваёй непаўторнасці і значнасці вярнулася ў нашу літаратуру, у свядомасць народа.

2. Максім Гарэцкі быў чалавекам вельмі добрай беларускай душы, сціплым па прыродзе сваёй, не абцяжараны ні славай, ні званнямі, ні тытуламі. Увесь нядоўгі век, што быў яму адпушчаны, куды б, у якія краі ні закідвала яго злая доля, ён працаваў да самазабыцця, рабіў усё, што было ў яго сілах, дзеля свайго народа, Бацькаўшчыны. Умеў ён шанаваць і працу тых, хто жыў да яго, хто яго акружаў, хто гэтак жа, як і ён, імкнуўся служыць ідэі нацыянальнага адраджэння, хоць і выбіраў дзеля гэтага свае, адрозныя ад яго, шляхі. Ніколі, у самыя скрутныя сітуацыі, не выяўляў раздражнення, злосці, а тым больш нянавісці. Павучыцца б гэтаму ў Максіма Гарэцкага некаторым наваяўленым сённяшнім лжэпрарокам, хто пнецца, лезе, не маючы на тое ніякіх падстаў, ледзь не ў лідэры нацыі! Але... Не дарэмна ж кажуць: калі Бог хоча пакараць каго, то перш за ўсё забірае ў яго розум... Што ж да творчасці выдатнага мастака слова, дык можна з упэўненасцю сказаць, што яе не чакае лёс твораў шматлікіх падзёншчыкаў, хай сабе і пры званнях, тытулах, з раздзьмутай зіхатлівай, але падманнай славай, што паміраюць на нашых вачах, бо яна, гэтая творчасць, вытрымала выпрабаванне часу, даказала сваю змястоўнасць і каштоўнасць і з кожным годам, з кожным новым паваротам гісторыі набывае ўсё большую і большую вагу. І ў гэтым неўміручасць і веліч самога яе стваральніка. Ва ўсім, да чаго б не дакранаўся мастак, вызначальным быў талент. І яшчэ — крыштальная сумленнасць, непадкупнасць, на першым месцы заўсёды стаялі інтарэсы справы, народа. Пісьменнік пайшоў на эшафот, але нідзе, ні ў чым не здрадзіў сабе. Трэба спадзявацца, што подзвіг Максіма Гарэцкага калі-небудзь усё ж будзе па-належнаму ацэнены.

**Барыс САЧАНКА.**



Хата бацькоў М. Гарэцкага.

манты.

Прыйшло да сучаснага чытача і апавяданне М. Гарэцкага «Ашуканы палітрэдактар». Твор рыхтаваўся да «Зборніка апавяданняў» пісьменніка, які мусіў выйсці ў 1928 годзе, але, з-за ўмяшання цэнзуры, так і не пабачыў свет. Свае ўласныя хаджэнні па творчых пакутах паклаў аўтар у аснову гісторыі, што адбылася з паэтам Трышкам Ласым. У апавяданні праўдзіва адлюстравана ўся атмасфера адміністраванага камандавання літаратурай і творчасцю ўвогуле, якая пачалася з першых гадоў савецкай улады. Няма сумнення, што аўтар ведаў усіх гэтых літаратурных чыноўнікаў Двубокага, Крыўляку, Балматуху і іншых. І, безумоўна, сам ён сутыкнуўся і з камісарам Пупком, і з яго жонкай. Яны з той рэдкай пароды людзей, якія здатны ў любых абставінах і пры любой уладзе трымацца на паверхні: «Пра яе казалі, што раней, у Гомелі, яна была страшэннаю русацянкаю, а цяпер, зайшоўшы за Пупка, зрабілася беларускаю і прыхільніцаю беларускае літаратуры. Ніхто не ведаў, чаму яна так крута перамянілася, і думалі, што яна гэта для кар'еры мужа».

Завяршаюць палымянскую падборку мясціны з «Камароўскай хронікі», што звышпільнай цэнзурай былі выкраслены з гэтага твора пры падрыхтоўцы Інстытутам літаратуры імя Я. Купалы Збору твораў М. Гарэцкага ў чатырох тамах. Тады даходзіла да сапраўднага абсурду. Выкрэсліваліся, па сутнасці, зусім бяскрыўдныя выразы. Напрыклад, у адным месцы замест: «А Лаўрыка выпусцілі, а во і ён», пакінулі: «А Лаўрык..., во і ён...» Дзеля чаго? А дзеля таго, каб чытач не здагадаўся, што брат пісьменніка знаходзіўся ў зняволенні.

Не будзем, аднак, прыводзіць прыклады, яны ў часопісе займаюць чатыры з паловай старонкі і дапытлівы чытач, пры жаданні, зможа параўнаць, што было ў М. Гарэцкага і што засталося ў Зборы твораў пасля ўмяшання цэнзуры.

Нарэшце М. Гарэцкі «браму скарбаў сваіх» адчыніў як мага шырока (не магу не назваць тых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры, якія мелі дачыненні да гэтага вяртання: Т. Голуб — аўтара грунтоўнага ўступнага артыкула «Скарбы жыцця» і каментарыя да твораў, М. Мушынскага і Г. Рэут — дзякуючы ім мы маем уяўленне пра аўтарскі варыянт «Віленскіх камунараў» (а найперш Галіну Іванаўну Гарэцкую, яе высілкамі публікацыя ажыццёўлена і ёю напісаны тлумачэнні да твораў).

Пасля гэтага ёсць падставы гаварыць у нечым і пра новага М. Гарэцкага, пра таго, якога мы дагэтуль не ведалі.

Яшчэ раз услухаемся ў яго споведзь. Услухаемся. Гэта ж так неабходна — і яму, М. Гарэцкаму, і ўсім нам:

**«Судзі мяне, судзі мяне кожны і ўсякі! Судзі мяне судом сваім, і кожным і ўсякім... Карай мяне карамі сваімі, карай...**
**Толькі прашу цябе: не выбівай з маіх худых і кволых рук гэтага маленькага пучочка васількоў...»**

І яшчэ. У «Скарбах» М. Гарэцкі задумваўся: «дзе ж тая праўда і дзе ж тая мана, і якою сцежкаю трэба ім (гэткім жа пакутнікам. — **А. М.**) ісці і якою не трэба». Мы, здаецца, у праўдзе і мане вучымся разбірацца. І, што важна, не без яго, Максіма Гарэцкага, дапамогі...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

ба. Праўда, у другой справе таго ж фонду ў «Ведомостях о переводных экзаменах учеников землемерно-агрономического училища в 1912 г.» адзначаецца, што Гарэцкі М. І. меў «выдатна» па 23 прадметах і практыцы, $4^1/_2$ (была і такая адзнака) па глебазнаўстве.

У вучылішчы будучы пісьменнік не толькі атрымлівае спецыяльнасць, але і далучаецца да літаратуры. Пачаў з невялікіх нататак, затым фельетонаў і апавяданняў. У першай сваёй інфармацыі, падпісанай «Беларус», ён расказвае аб каморніцка-агранамічным вучылішчы, аб вялікім конкурсе — да трохсот заяў на 36 месцаў. «Можна сказаць, — пісаў М. Гарэцкі, што вучні з'язджаюцца з усіх куткоў Расіі, бо беднякоў прымушае шукаць асветы тое, што вучылішча мае шэсцьдзесят 180 рублёвых стыпендый».

У ліпені 1913 года паўстала пытанне аб размеркаванні на работу. У архіўнай справе маецца пісьмо загадчыка каморніцкай часці землеўпарадкавальнай камісіі Магілёўскай губерні на імя дырэктара вучылішча. У ім гаворыцца, што просім «...не отказать Максиму Горецкому подать на мое имя установленное прошение о приеме его на службу в Могилевскую губернию». Указвалася і сума гадавога аклада — 900 рублёў.

Можна меркаваць, што М. Гарэцкі з-за блізкасці да роднага дому і неабходнасці аказаць дапамогу бацькам хацеў паехаць на работу ў Магілёў, і, напэўна, вёў папярэднія перамовы. Аднак атрымлівае накіраванне ў Вільню. А ў Магілёў дырэктар вучылішча паведамляе, што М. Гарэцкі меў казённую стыпендыю і абавязаны адслужыць па накіраванні «...число лет, равное времени использования казенной стипендии».

У архіўнай справе захоўваецца і копія атэстата Максіма Гарэцкага. Вось як ён заканчваў вучобу: агульнаадукацыйныя прадметы, сельская гаспадарка і землеўпарадкаванне — «выдатна», прыродазнаўчанавуковыя прадметы —«добра». «При этом, — адзначаецца ў атэстаце, — проявил особый интерес и оказался наиболее сведущим по геодезии и коренным улучшениям сельскохозяйственных угодий». На копіі атэстата ёсць подпіс: «Подлинный получил 29 июля 1913 года. Максим Горецкий».

Восенню 1913 года ён ад'язджае на работу ў Вільню. З гэтага горада М. Гарэцкі прысылае 4 студзеня 1914 года ў канцылярыю вучылішча паштоўку, у якой просіць паведаміць, ці няма яму пакета з Шамоўскага валаснога праўлення (у гэтай воласці знаходзілася яго родная вёска Малая Багацькаўка.— **Э. І.**). Паведамляе і свой адрас: «Вільня, Губернская чарцёжная. Гарэцкаму».

Вялікі інтарэс прадстаўляюць некалькі анкет і апытальных лістоў, якія запоўніў М. Гарэцкі і якія захоўваюцца ў асабістай справе. Пра адукацыю сведчыць, што закончыў каморніцка-агранамічнае вучылішча ў Горках, займаўся самаадукацыяй і слухаў лекцыі ў Віленскім універсітэце. Ці ведаюць аб апошнім факце яго біёграфы?

Адказваючы на пытанне аб прафесіі, М. Гарэцкі піша ў адной анкеце — настаўнік, у другой — гісторыя беларускай літаратуры. Яго рукой састаўлена кароткае апісанне жыцця за апошнія 15 год: да 1913 г.—вучыўся; 1913—1914 гг. — каморнікам на Віленшчыне; 1914—1917 гг.—на вайне; 1918—1919 гг.— працаваў у савецкіх газетах; 1919—1923 гг. — настаўнічаў у Віленскай беларускай гімназіі; 1923—1925 гг.— настаўнічаў у Мінску (рабфак, камвуз).

З анкет таксама бачна, што М. Гарэцкі прыцягваўся да суда ў Вільні польскімі ўладамі «...за рэдагаванне газеты «Беларускія ведамасці» і камунізм».

Даведваемся з дакументаў і апытальных лістоў, што ён свабодна валодаў польскай мовай. Пайшоў у армію 1 ліпеня 1914 года і служыў малодшым феерверкерам у артылерыі, удзельнічаў у баях і быў цяжка паранены. Прымаў удзел у з'ездзе настаўнікаў беларускіх сярэдніх школ у Вільні ў 1922 годзе (быў прадстаўніком ад Віленскай беларускай гімназіі). У 1926 годзе М. Гарэцкі — дэлегат ад Інбелкульта на краязнаўчай канферэнцыі.

Толькі некалькі штрыхоў, але і яны дадаюць ведаў пра аднаго з самых таленавітых і славутых сыноў нашага народа.

**Эмануіл ІОФЕ.**

---

# Адно імгненне і ўсё... жыццё

«Браты М. а Г. Гарэцкія» — так пазначылі сваё аўтарства Максім і Гаўрыла Гарэцкія на «Руска-беларускім слоўніку», які быў выдадзены ў 1918 годзе ў Смаленску «к патрэбе і на добрае ўжыванне маладым і адраджоным братам, што па-маскоўску чытаць-пісаць умеюць, а па-беларуску вучыцца хочуць».

Калі яшчэ быў жывы адзін з гэтых аўтараў — акадэмік Г. Гарэцкі, я пацікавіўся ў Гаўрылы Іванавіча, як слоўнічак рыхтаваўся, хто з братоў што рабіў. Атрымаў такі адказ: «Я дапамагаў брату. У абласным камітэце ў Смаленску, дзе я працаваў тады, была машынка, і я друкаваў, глядзеў карэктуру, мо і якое слова падказаў, а галоўнае — за мною заставалася тэхнічная праца. Слоўнік выпускалі ў той жа друкарні, у якой выходзіла і абласная газета. З надрукаваннем не было цяжкасці. Тады была такая пара: друкуй, калі ласка, што хочаш, колькі хочаш. толькі грошы давай. А вось іх якраз у нас не было. Пра гэта Максім і Жылуновіч не раз пісалі...» — «Ну, і дзе ж тых грошай расстараліся?» — «А зусім выпадкова. У Смаленску Максім неяк напаткаў свайго таварыша Старобінца. Разам у артылерыі служылі. Быў дэмабілізаваны. Максім расказаў Старобінцу пра свой клопат. І гэты Старобінец дастае васемсот рублёў. Добра помню, колькі грошай было, — і дае Максіму. Вось так і вырашылася лёс слоўніка. Больш таго Старобінца я не спатыкаў. Хто ён і адкуль — не ведаю...»

Такая сціплая згадка пра гісторыю выдання «Руска-беларускага слоўніка» ў Смаленску ў 1918 годзе братамі Гарэцкімі. На гэтым можна было б кропку і паставіць.

Але, глядзіце — невядомы цяпер нам артылерыст Старобінец за адно імгненне вырашыў лёс слоўніка. За гэтае імгненне і сваё імя ўвекавечыў, след на зямлі пра сябе пакінуў. Мы не ведаем, колькі пражыў ён, чым займаўся далей, але з усяго жыцця толькі гэтае імя імгненне і застанецца ў гісторыі...

Ці не павучальны прыклад для нашых сённяшніх мецэнатаў, бізнесменаў, мільянераў?!

І яшчэ... Максім, далучаючы да працы над слоўнікам малодшага брата, рыхтаваў яго да свядомага жыцця на нацыянальнай ніве. І яму гэта, як вядома, удалося. Будучы акадэмікам, слынным геолагам, доктарам геолага-мінералагічных навук, Г. Гарэцкі ўсё жыццё цікавіўся і філалогіяй, і моваю, і нетрамі зямлі. І ў гэтым, бясспрэчна, ёсць след і Максімавай руплівасці.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**



Бацькі Максіма Гарэцкага — Іван Кузьміч і Ефрасіння Міхайлаўна.

# У вянок Максіму Гарэцкаму

**Імя — Гарэцкі ад «гарэць»**
**пайшло, напэўна,**
**А мо яно — ад гор-пагоркаў**
**тых Мсціслаўскіх,**
**Адкуль Максім праз песні**
**матчыны і казкі**
**Глядзеў на Беларусь**
**удумна-летуценна!**

**З Малой Багацькаўкі вялікі**
**свет убачыў,**
**Дзе радасць і туга, нядоўгі**
**мір і войны...**
**На дужых крылах Слова,**
**сэрцам неспакойным**
**Ён гэты свет да Сонца ўзняў,**
**цяплом аблашчыў.**

**А сам згарэў у ім, як той**
**Ікар, дачасна,**
**Згарэў, каб праз гады**
**вярнуцца ў хату родну,**
**Падняць яшчэ вышэй**
**нашчадкам дух свабодны,**
**Свяціць яшчэ ярчэй на шлях**
**круты да шчасця.**

**Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ.**




# «ПАКАЗВАЦЬ БЕЛАРУСА СА ЎСІХ БАКОЎ...»

Калі думаеш сам або каму-небудзь даводзіш, навошта створаны і якім павінен быць беларускі нацыянальны тэатр, калі гаворка ідзе пра вышэйшы сэнс сцэнічнай творчасці на ніве беларускага Адраджэння, няма патрэбы штосьці выдумляць і рабіць з сябе надта дасведчанага тэарэтыка: дастаткова разгарнуць старонкі Максіма Гарэцкага. Напісаныя ў 1913 годзе. Калі іх аўтару было дваццаць гадоў. Звычайна ягоныя равеснікі яшчэ толькі далучаюцца да крыніцы ведаў пра тое ж тэатральнае мастацтва, знаёмяцца з ім па розных хрэстаматыях ды першакрыніцах. А тут ёміста і грунтоўна абвешчана нацыянальная задача ў галіне будовы беларускага тэатра, задача надзённая і дзейсная і дагэтуль. А мо нават і асабліва актуальная якраз у нашы дні, напрыканцы XX стагоддзя, калі суверэнная Беларусь кшталтуе адметную культуру, вызваляючыся ад ідэалагічнага дыктату і мінучых прапагандысцкіх забабонаў.

Маю на ўвазе артыкул М. Гарэцкага «Наш тэатр». Яго можна ўспрымаць і як маніфест сталага і эрудзіраванага культуролага, і як праграму нацыянальнай інтэлігенцыі, і як афарыстычны катэхізіс-настаўленне для драматургаў, рэжысёраў і артыстаў, што выносяць плён сваёй творчасці на падмосткі сцэны. Ёсць у гэтым тэксце і нешта паэтычнае. Катэхізіс, падобны да натхнёнай паэмы. Дарэчы, «Наш тэатр» і быў выдадзены ўпершыню славутым панам Марцінам Кухтам у Вільні адначасова з «Вянком» знакамітага Максіма Багдановіча. У такіх супадзеннях заўсёды пульсуе пэўная заканамернасць, і ўсё выпадковае набывае таямніча - сімвалічны сэнс.

Наогул, як мне здаецца, у нашым тэатразнаўстве і літаратурнай крытыцы ледзь закранута вялікая тэма — Максім Гарэцкі і тэатр. Ды і сама наша сцэна, мабыць, яшчэ схамянецца і здагадаецца, што дарэмна дасюль пакідае па-за сваім творчым інтарэсам драматычную па сваёй сутнасці і духу мастацкую спадчыну выдатнага празаіка, які так маляўніча раскрывае праз моўныя характарыстыкі свае вобразы і прасочвае іхні лёс у драматычна вострых жыццёвых калізіях. Гэта проза патэнцыяльна багатая для перакладу на сцэнічны лад.

Што гэта так і ёсць, пацвярджаюць і драматургічныя практыкаванні М. Гарэцкага, тыя абразкі, якія ён пісаў у дыялагічнай форме, у выглядзе кароценькіх п'ес. Сапраўды, варта сёння пагартаць тыя кнігі пісьменніка, дзе змешчаны аповесць «Антон», п'есы «Гапон і Любачка», «Салдат і яго жонка», «Атрута», «Чырвоныя ружы», «Каменацёс», «Не адной веры», «Жалобная камедыя» або «Свецкі чалавек»—і ты атрымаеш уяўленне пра безумоўную тэатральную вартасць створанага М. Гарэцкім. І як гэта ні дзіўна, у сцэнічным летапісе пазначаны толькі адзін факт звароту да драматургіі гэтага мастака сцэны. Ды і то аматарскай.

Гэта здарылася ажно ў 1937 годзе восенню, калі М. Гарэцкі быў у кіпцюрах яжоўска-берыеўскіх драпежнікаў, калі над ім чынілі гвалт недапечаныя артадоксы і недавучаныя патрыёты «непарушнага Саюза», сталінскай дзяржавы. Здарылася паблізу ад Карэлічаў у вёсцы Загор'е, дзе дваццацігадовы Янка Брыль арганізаваў аматарскі тэатр, каб са сцэны прапагандаваць беларускае слова і беларускую думку. Тэатр — як выклік санацыйным уладам Польшчы! І сярод першых пастановак аматараў з Загор'я — «Атрута» М. Гарэцкага, дзе небарака селянін — Рыгор і без таго раб дзяржаўных чыноўнікаў ды мясцовых багацеяў — робіцца яшчэ і рабом магутнай атруты, губляючы ад гарэлкі і маральныя свае вартасці і нават сумленне. Той Рыгор нібы пабрацім па сваім горы - злачынстве Коласаваму «Антосю Лаце». Ва ўмовах Заходняй Беларусі таго часу такая драматургія і спрыяла фарміраванню нацыянальнай свядомасці, і мела выхаваўчы этычны ўплыў на людзей.

Гэта пакуль што адзіны радок у сцэнічнай біяграфіі твораў М. Гарэцкага.

Затое ягоныя даследаванні і парады ў галіне тэатразнаўчай журналістыкі і крытыкі зрабілі свой адбітак на практычныя справы І. Буйніцкага, А. Бурбіса, Ф. Ждановіча, У. Галубка і Е. Міровіча; мелі яны значэнне і для драматургічных пошукаў паэтаў і пісьменнікаў. Я не асмелюся гаварыць больш канкрэтна аб тым, хто менавіта — В. Гарбацэвіч або Я. Рамановіч, Е. Міровіч ці Ф. Аляхновіч — непасрэдна кіраваўся прарочымі ўказаннямі аб тым, якім бачыцца і якім павінен быць беларускі тэатр на шляху Адраджэння, але ўпэўнены, што кожны з памянёных тут ведаў і нават вывучаў праграмны артыкул «Наш тэатр».

Дастаткова прывесці з яго толькі адзін абзац, каб адчуць усю агністую духоўную энергію змагара за нацыянальны ідэал: «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чым бы ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця—і божа мілы!—гэты гаротнік беларус, пераканаўшыся, ужо знойдзе здольнасці парваць ланцугі рабства, патрапіць крыкнуць: «Жыве Беларусь!» — так дужа, што аж векавыя муры няволі, як тыя сцены ерыхонскія, пасыплюцца ў прах. А ў такім разе доўг нашых пісьменнікаў, каторы яны павінны сплачваць, гэта—у драматычных творах паказаць беларусу, у якой пушчы ён блудзіць і дзе ляжыць яму дарога на поле, шырока-далёкае, роднае поле вольнага жыцця».

Артыкул разгортвае і ўдакладняе гэты тэзіс, канкрэтызуе ўяўленне пра нацыянальнае аблічча тэатра Беларусі як цывілізаванай і незалежнай краіны. Мусібыць, дастаткова і гэтага тэзісу, каб адчуць праніклівы і пільны роздум па-сучаснаму адукаванага паладзіна ў пашанотнай варце Мельпамены і Таліі.

Я звяртаюся да гэтых муз, бо і М. Гарэцкі не грэбуе так званым высокім стылем, каб абвясціць веліч тае задачы, што наканавана вырашаць беларускай сцэне. Спашлюся яшчэ на такую мясціну з артыкула: «Тэатр гадуе маладых байцоў за праўду і дае грамадзянскую моц людзям у пары, але заняпаўшым, ён абгладжвае на добры лад характары людзей і народаў. Толькі трэба памятаць, што тэатр—дамаская шабля, вострая з абодвух бакоў. У тэатры можна прыносіць ахвяры Духу Чысціні і Праўды, можна пакланяцца і Ваалу з Астартай... Добра, каб ён быў храмам, а не бруднай стайняй Аўгія, і не памяшчэннем злога бога Арымана, і не кутом дурнога скалазубства...»

Не буду тлумачыць імёны герояў грэчаскай міфалогіі, толькі падкрэслю, што да іх М. Гарэцкі звяртаўся, каб яшчэ раз вылучыць агульначалавечае значэнне дзейнасці нацыянальнага тэатра. Тэатр засяроджваецца на маральных і духоўных каштоўнасцях (або заганах) уласнага народа, каб адчуць і паказаць яго адметнае месца і ролю ў планетарнай культуры зямлян. Прынамсі, так успрымаеш тэатральны маніфест М. Гарэцкага цяпер, калі па-сённяшняму гучыць і такі сказ: «Тэатр наш павінен стаць Храмам Нашага Адраджэння...»

Пагадзіцеся, што нашай сучаснай сцэне яшчэ многае трэба зрабіць, каб і на самай справе мець годнасць Храма Мастацтва і не дазваляць сабе падаць у прыкрыя Нізіны, у глухі закутак таннага скалазубства або бязглуздзіцы. Чаго грэх таіць: і сёння мы бываем сведкамі, як нам прапануюць замест храма — мітынговую трыбуну з напышлівымі рыторыкамі, а камедыю зводзяць да непрыстойных анекдотаў, разлічаных на самахвальскі рогат не надта патрабавальнага гледача. Ой, варта б пастаўшчыкам такой тэатральнай вытворчасці перачытваць М. Гарэцкага, таго дваццацігадовага мудраца, які восемдзесят гадоў назад склаў высакароднага духу катэхізіс «Наш тэатр»!

Не, не трэба выстаўляць М. Гарэцкага носьбітам бясспрэчных ісцін і абсалютна беспамылковым крытыкам. Больш таго: сёння, мабыць, наогул цікава і карысна для тэатралаў заглыбіцца і ў дыскусійныя моманты спрэчак М. Гарэцкага з Я. Купалам, напрыклад, або ўважліва перачытаць водгукі на творчасць У. Галубка і ягонага тэатра або М. Грамыкі, параўнаўшы з сучасным нашым уяўленнем аб ролі вандроўнага тэатра на Беларусі, аб творчасці аўтара «Плытагонаў» або «Пісаравых імянін». Не губляюць свайго значэння і ягоныя заўвагі і меркаванні пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, пра оперу «Сялянка».

Хаця навошта ж я спрабую дакладна вызначыць практычны сэнс нашага вывучэння тэмы «Гарэцкі і тэатр»? Артыкулы публіцыстычна і па-мастацку так адмыслова напісаны, што можна гаварыць нават і пра эстэтычную асалоду, якую нам дорыць такая літаратура. Прынамсі, чытаючы такія артыкулы, як «Беларускае драматычнае пісьменства» (1919), «Вінцук Дунін-Марцінкевіч» (1919), «Уладзіслаў Галубок» (1919), «75 гадоў оперы «Сялянка» (1921), «Пісаравы імяніны» — камедыя Галубка» (1923), «Аб Галубковых спектаклях» (1923), «Беларускі тэатр у палове XIX веку» (1924), я адчуў неабходнасць павучыцца майстэрству ўдумлівага крытыка і выдатнага стыліста на рэцэнзенцкай і тэатразнаўчай ніве. А праблематыка артыкулаў не састарэла і дасюль.

Раскрыем словы М. Гарэцкага хоць бы пра «Раскіданае гняздо» Я. Купалы. Ці не заўсёдная спрэчка пра ўзаемаадносіны ў адным мастацкім творы элементаў высокай рамантычнай сімволікі з элементамі зямнога рэалізму адгукаецца ў роздуме М. Гарэцкага, які, відаць, не згаджаўся з тым, што наогул у еўрапейскай культуры на рубяжы XIX і XX стагоддзяў рэалізм набываў акрэсленыя ўжо рысы натуралістычнага паказу рэчаіснасці, і мастакі слова шукалі новыя выразныя формы і новы стыль адлюстравання праўды жыцця ў мастацтве, багатым на змястоўныя сімвалы, асацыятыўныя параўнанні і суадносіны, на блазенскія і гратэскныя пасажы. Таму яму здавалася, быццам «Раскіданае гняздо» — гэта «мешаніна рэалізму з сімвалізмам, разам з тым сімвалы новага часу абгорнуты нейкім туманам няпоўнай усвядомленасці, і дзеля таго, яны, падмяняючы прынаднасцю думкі, выйграюць, але маючы ўшчэрбу ў сочнасці фарбаў побач з рэалізмам, многа губяць».

Надта спрэчна! Бо і сцэнічная практыка, напрыклад, у пастаноўцы «Раскіданага гнязда» ў купалаўцаў у 1972 г. рэжысёрам Б. Луцэнкам і «Тутэйшых» у 1990 г. М. Пінігіным па-свойму абвяргае абстрагаваныя ад магчымага тэатральнага ўвасаблення разважанні пра паэтыку драматургіі Янкі Купалы наогул. У гэтых работах наша рэжысура разам са сцэнографам і акцёрамі знайшла той запаветны ключык, які адкрывае перад намі паэтычнае хараство ўвасобленых Купалам карцін жыцця як алегарычна асэнсаваных з'яў быцця чалавецтва ў яго нацыянальным тэмпераменце і нацыянальным мастацкім светаадчуванні. Тады сімвал робіцца нібы кодам жыцця. Мастацкі код!

Вядома, у мяне могуць быць і апаненты, якія па-свойму паставяцца да сказанага М. Гарэцкім. І гэта засведчыць жывую актуальнасць некаторых ідэйна - эстэтычных поглядаў выдатнага пісьменніка, які разумеў, што без тэатра Адраджэнне наўрад ці здабудзе таго плёну, аб якім марылі пакаленні беларусаў.

Трэба спадзявацца, што 100-годдзе Максіма Гарэцкага наблізіць нашу сцэну і наша тэатразнаўства да сапраўды каштоўнай і змястоўнай спадчыны гэтага майстра, які ў трагічным віры сталіншчыны загінуў, не паспеўшы стварыць, магчыма, самых выдатных сваіх твораў. У тым ліку і для тэатра, які жывіўся для яго прывабным дэвізам: «Падняць беларуса да ідэальнага чалавека!»

Падняць, заўважым мы асабліва, гэта не адно і тое ж, што перавыхаваць або загартаваць! І невыпадкова потым М. Гарэцкі ўдакладняе: «...Адправы ў нашым Храме Адраджэння адны: цудоўнымі ў мастацтве абразамі паказваць беларуса са ўсіх бакоў і прамываць яму вочы». У галаслівых хваляваннях ахлакратыі цяпер часта выяўляецца жаданне натоўпу «прамываць вочы» і вучыць якраз інтэлігенцыю, асабліва творчую — артыстаў, мастакоў, музыкантаў, кінематаграфістаў, філосафаў. А ў тэатры ўсё часцей выказваюць сваё імкненне забаўляць ды пацяшаць цяперашняга гледача, адцягваць увагу публікі ад сур'ёзных жыццёвых клопатаў і роздуму рознымі меладраматычнымі, дэтэктыўнымі і эратычнымі байкамі, вадэвілямі, міфамі. Штосьці зрушваецца пры гэтым у самім паняцці «наш тэатр», як яго разумелі лепшыя прадстаўнікі народа. Вядома ж, што тэатр вучыць, пацяшаючы, і пацяшае, навучаючы! Тым і прамывае нам усім вочы на праўду. Калі толькі гэта сапраўдны Тэатр.

**Барыс БУР'ЯН.**

---

**— Валеры, самым строгім і дасведчаным слухачом канцэрта, пэўна ж, былі вы: некалі разам з Захаравым навучаліся музыцы, цяпер пастаянна сочыце за ягонай творчасцю; воляю лёсу пабылі і яго педагогам. У мяне-то гэты канцэрт — самае першае ўражанне ад ігры Валодзі, хоць асабіста мы пазнаёміліся з ім раней. І ўражанне, калі казаць адным словам, — светлае. Якім я ўяўляю сабе Захарава — вельмі светлым, тонкім, датклівым чалавекам, — такім успрыняла і ягонае гранне. Сам жа канцэрт (і рэакцыя публікі тое засведчыла) — падзея не толькі асабістага творчага жыцця выканаўцы...**

— А я карыстаюся магчымасцю са старонак «ЛіМа», што асабліва прыемна, павіншаваць Валодзю з поспехам на конкурсе ў Кракаве. І віншую з першым прафесійным сольным канцэртам, дзе Захараў ужо выступіў у якасці прызнанага майстра. Я лічу, што даць сольны канцэрт на сцэне сталіцы рэспублікі — таксама значная з'ява, не меншая, чым нават сам конкурс.

**— Тым больш, зала на Залатой Горцы мае прэстыж у камерных выканаўцаў. Дый упершыню выступіў тут музыкант з Гродна. Склаўся ж стэрэатып, што ўсе гастралёры — толькі з-за мяжы, а свае лаўрэаты — толькі з Мінска, дзе яны, маўляў, выспяваюць, сталеюць, квітнеюць і ўрэшце згасаюць.**

— Радасна, што гэта мой калега, мой зямляк, з якім разам пачыналі, разам паступалі ў музычнае вучылішча. А што датычыць сталічных хлопцаў... Я, вы ж ведаеце, сам з Гродна, але пераехаў у Мінск. І сутыкнуўся з мноствам зусім не творчых цяжкасцей, бытавых праблем. Жахліва, калі каштоўнасць спецыялістаў вызначаецца не тым, якія яны спецыялісты, а іх здольнасцямі здабыць прапіску ў Мінску ці ў яго ваколіцах. Вось, дарэчы, чаму для Валодзі было вялікім шчасцем адно толькі выехаць на конкурс у Кракаў! Успамінаю, як Яўген Грыдзюшка, якога я лічу сёння вядучай гітарай Беларусі, браў удзел у адборах на міжнародныя конкурсы. У 85-м годзе, напрыклад, карыстаючыся маёй паездкай у Маскву, Жэня папрасіў дастаць абавязковыя ноты для 2-га конкурснага тура — эцюды Л. Браўэра. Ва ўсіх гітарыстаў прасіў я гэтыя ноты — ніхто не даў. У такой маральнай атмасферы быў заканамерны вынік: Грыдзюшка прыехаў на адбор, па балах ён ішоў трэці, і толькі з-за таго, што ў яго не было (ніхто ж не даў) эцюдаў Браўэра, чыноўнік з усесаюзнага Міністэрства культуры распарадзіўся паслаць на конкурс дваіх. Як цяжка было прабіцца на міжнароднае спаборніцтва, калі ўсім запраўляла Масква! У тутэйшае Міністэрства культуры, мабыць, не прыходзіла і адпаведная інфармацыя, а калі й прыходзіла — хто на яе зважаў.

**— Захараву ўжо чыноўнікі неміналі, а ўсё адно — колькі давялося пераадолець. Разлічваў жа выключна на сябе.**

— Так, ён расказваў пра свае «прыгоды». Дарэчы, ён і ў лімаўскім інтэрв'ю гаварыў, што

---

Новы нотны зборнік «Я іграю на раялі» Г. Вагнера і В. Яканюка выйшаў у выдавецтве «Беларусь» (1992 г.). Бібліятэка педагога-піяніста папоўнілася навучальным дапаможнікам. Гэта плён супрацоўніцтва вядомага кампазітара Г. Вагнера і кандыдата педагагічных навук В. Яканюка. Адметнасць зборніка найперш у тым, што ён заснаваны цалкам на фальклорным матэрыяле. Дзеці вучацца гаварыць на роднай беларускай музычнай мове. Народныя мелодыі (калыханкі, гульнёвыя, танцавальныя) спачатку даюцца ў пеўчым адна - двухгалосным выкладанні, што набліжае іх да першапачатковага гучання. Потым ідуць цудоўныя фартэпіянныя апрацоўкі Г. Вагнера. Цікавая, тонкая гарманізацыя памагае выявіць асаблівасці кожнай з песень. Такая віртуозная работа па сіле толькі вялікаму майстру, які ўмее

МУЗЫКА

# ІНАКШ—НЕ ДАРУЕ ГІСТОРЫЯ

## З нагоды аднаго дэбюта

**На маёй памяці такога не было. Прыехаў невядомы для сталічнай публікі музыкант з Гродна, сабраў сваім канцэртам поўную залу; слухачы не скупіліся на воплескі, дэбютант — на «бісы». Адбывалася гэта напярэдадні новага года ў зале на Залатой Горцы, дзе каталіцкія каляды пакінулі адметнасці вялікага касцельнага свята: рытуальныя елачкі, віншавальныя звароты, Віфлеемскую зорку, лялечны біблейскі вертэп з немаўлёнкам-Ісусам, Багародзіцай, фігуркамі жывёлін... У такім сімвалічным інтэр'еры музычная падзея набывала таямнічы цудоўны сэнс. Госць Мінска Уладзімір Захараў, дыпламант нядаўняга Міжнароднага конкурсу гітарыстаў у Кракаве, іграў складаную праграму, якая і вывела яго, першага сярод беларускіх гітарыстаў, у лідэры прэстыжнага музыканцкага спаборніцтва. Пасля канцэрта мы абмяняліся ўражаннямі з вядомым артыстам, педагогам, даследчыкам гітарна-лютневай культуры на беларускіх землях Валерыем ЖЫВАЛЕЎСКІМ. Яму выступленне У. Захарава дало падставу згадаць і нейкія агульныя праблемы...**

польскія гітарысты зацікавіліся беларускай музыкай, якую Валодзя ўключыў у сваю конкурсную праграму. Але ж самае цікавае, шмат хто з польскіх гітарыстаў — выхадцы з Беларусі. Вядомы гітарыст Сасінскі — з-пад Наваградка, ён з'яўляецца заснавальнікам гітарнага класа ў Музычнай акадэміі ў Лодзі. Нават Кавальчук, дырэктар той акадэміі,— з Гродзеншчыны. А выпускнік акадэміі па класе гітары Яраслаў Яновіч — сын вядомага беларускага пісьменніка, дый мае і свае літаратурныя вопыты. У польскім энцыклапедычным даведніку пра гітару я напаткаў прозвішча Ваўжэніца Жывалеўскага: цікава, што гэты польскі гітарыст нарадзіўся ў беларускай Оршы на пачатку стагоддзя, пераехаў у Польшчу і быў там вельмі папулярны паміж 1-й і 2-й сусветнымі войнамі... Добра, што Валодзя Захараў прадставіў Беларусь на конкурсе ў Кракаве сваёй музыкай.

**— Ён і вашы п'есы іграў.**

— Ну, зараз можна назваць некалькі прозвішчаў гітарыстаў, якія пішуць для свайго інструмента. Скажам, Грыдзюшка пераклаў 6 п'ес з «Полацкага сшытка». На мой погляд, гэта таксама з'ява, і ў транскрыпцыі для гітары «Полацкі сшытак» гучыць не горш, чым у выкананні ансамбля «Кантабіле» ці «Харошак». Гучыць як арыгінальная музыка, напісаная спецыяльна для гітары.

**— Ці выпадкова гітарысты гэтак прыахвоціліся да кампазіцыі?**

— Відаць, інструмент такі—гітара, які захапляе цалкам і ўзнікае жаданне што-небудзь для яго стварыць. У музычным вучылішчы па спецыяльнасці ў нас з Валодзем была цудоўны педагог — Л. А. Дзянскевіч. А кампазіцыя — гэта дзякуючы В. К. Радзіёнаву: безумоўна, вельмі таленавіты дзіцячы выкладчык. Усё, што зараз магу ўспомніць,— педагогі вучылішча, кансерваторыі,— самы вялікі творчы запас складваўся дзякуючы яму. І не толькі ў галіне пісання музыкі. Мы заўсёды з цікаўнасцю ішлі на заняткі да Радзіёнава — у нас былі, напрыклад, асобныя дні, калі мы толькі слухалі музыку. Уявіце сабе: першакурснікамі мы слухалі монаоперу Ф. Пуленка «Чалавечы голас»! Увогуле знаёміліся з опернымі творамі: Віталь Канстанцінавіч меў тады ў сваёй калекцыі ці не сотню іх. Словам, чалавек неардынарны. Што, дарэчы, можна сказаць і пра Валодзю: ён піша вершы, і музыка ў яго атрымліваецца вельмі самабытная. Было яму 14—15 гадоў, калі напісаў цыкл вельмі неардынарных п'ес.

**— Так, ягоны «Дзіцячы альбом» гучыць вельмі свежа, дасціпна, мяркуючы па тых п'есах, што У. Захараў сыграў на «біс» у канцэрце. Незвычайныя штрыхі, трапныя гукавыяўленчыя прыёмы — адразу ўяўляеш «Мужыка ў галёшы» ці сітуацыю «Як жаба з'ела коніка»... Дарэчы, Валеры: Валодзя ўсе гэтыя прыёмы ды штрыхі вынайшаў сам ці пераняў такую музычную мову з гітарнай літаратуры?**

— Не-не, гэта абсалютна самабытная з'ява. Хаця Мікіта Кошкін, вядомы маскоўскі гітарыст, піша музыку ў гэткім жа стылі, але У. Захараў, калі падлеткам прыдумваў свае характарыстычныя п'есы, проста не быў знаёмы з творчасцю свайго старэйшага аднадумцы з Расіі. У Валодзі быў перыяд, калі ён перастаў пісаць музыку, заняўся выключна выканальніцтвам. Цяпер ён яшчэ і педагог. Але не так даўно стварыў Прэлюд і Фугету на 2 заходнеславянскія тэмы — твор, які мы пачулі ў канцэрце. У Прэлюдзе скарыстана каталіцкая песня, але самае цікавае, што яна вядома толькі на Гродзеншчыне. Калі Захараў паказаў гэты твор на фестывалі, аказалася, тэма яго ў Польшчы невядомая, значыць, гэта проста часцінка нашага мясцовага, менавіта беларуская каталіцкая музыка. А тэму Фугеты, як вы заўважылі, нельга было не пазнаць: гэта наша «Го-го-го, каза». Ну, і «Грунвальдскую пастараль» мы пачулі. Добрая, цікавая п'еса.

Тое, што ў Валодзі зноў абудзілася цікавасць да кампазіцыі, я з радасцю вітаю. Гэта будзе спрыяць пашырэнню нашага нацыянальнага гітарнага рэпертуару. Вось я рыхтаваў канцэрты ў рамках фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы», займаўся 16-м стагоддзем: там цэлыя тамы польскай, ангельскай, іспанскай музыкі — дзе ж беларуская? Была такая багатая цывілізаваная дзяржава, ВКЛ, а музыкі й знаку няма. А, скажам, дакладна вядома, што мінскі ваявода Кшыштаф Завіша быў цудоўным лютністам: ну не мог ён штонебудзь не пісаць! А ўсе архівы Завішы вывезеныя ў Польшчу. Калі тамтэйшыя даследчыкі знойдуць ягоныя ноты, мы зноў спознімся, бо тое будзе ўжо не беларускае, а польскае, і нам зноў давядзецца змагацца, даказваючы, што гэта — беларускае мастацтва.

Дык вось і зараз: трэба ствараць сваю музыку, карыстаючыся тым, што ў нашыя гады ідзе своеасаблівае адраджэнне гітарнага мастацтва на Беларусі. Але калі не будзе ўсё гэта нейк зафіксавана, выдадзена, у 21—23 стагоддзях запытаюцца, як сёння пытаюцца пра 16-е: «А дзе ж наша беларуская музыка?»

**— Так, гісторыя — дама суровая, дыскутаваць з ёю няможна, паблажлівай да нашых упушчэнняў яна не будзе. Дарэчы, У. Захараў, пасля поспеху арыгінальных беларускіх п'ес у Кракаве, пераканаўся, што, як ён кажа, «без сваёй музыкі мы — не музыканты». І нават наладзіў кантакты з амерыканскім выдаўцом. Аднак ён пераканаўся і ў іншым: адметная «адвольная» праграма сама па сабе не прынясе поспеху, трэба ўпэўнена пачувацца і ў абавязковым конкурсным рэпертуары. Вось і мы цяпер паслухалі Сарабанду і Бурэ са Скрыпічнай партыты № 1 І. С. Баха ў пералажэнні А. Сеговіі, «Сюіту ў стылі Вайса» М. Понсэ, творы Ф. Тарэгі ды інш. Не буду дэталізаваць, што мяне пераканала ці захапіла больш, што менш. Увогуле ўражвала прыемнае sotto voce гітары, трапятлое piano, мяккае святло, якое выпраменьваў яе голас. Замест ігры на публіку было засяроджанае ўслухоўванне ў сябе, замест артыстычнага апломбу ды эстраднай кідкасці — паэтычная недаказанасць. Але мне падалося, што музыкант, хаваючы сваё вялікае хваляванне, прыхаваў і эмоцыі...**

— У Валодзі ёсць такая рыса... Можна параўнаць гэта з вожыкам: калі дакранешся, ён адразу ў клубок —і ўсё, сябе не раскрые. Ягоны дэбют у Мінску сапраўды суправаджала неверагоднае хваляванне, якое, мабыць, і знівеліравала дынамічныя, эмацыянальныя кантрасты, напрыклад, у выкананні музыкі Баха. Чым Валодзя заварожвае, дык гэта сваёй далікатнасцю, музычнасцю, але часам гэтая музычнасць ператваралася ў строгую акадэмічнасць: ён стараўся не паказаць, наколькі ўсхваляваны. Але творы Тарэгі прагучалі вельмі арганічна, і мне здаецца, сугучна творчай індывідуальнасці менавіта Захарава: «Арабскае капрычыо», «Успамін пра Альгамбру», Варыяцыі на тэму Паганіні «Венецыянскі карнавал»...

**— Вось мы з вамі такія «прыдзіры», а публіка ж недахопаў не вышуквала, кожны нумар праграмы прымала з захапленнем, і моладзь была ў зале, і людзі сталыя...**

— Вельмі радуе наогул, што апошнім часам гітарныя канцэрты ў Мінску збіраюць шматлікую публіку. На пазалеташнім фестывалі гітарнай музыкі былі аншлагі ў Палацы культуры МАЗа — а туды ж вельмі цяжка дабірацца. Гадоў 15 таму было такое і ў Вялікай зале філармоніі, пакуль адміністрацыя, карыстаючыся асаблівай любоўю нашага народа да гітары, не пачала запрашаць з канцэртамі музыкантаў неадэкватнага ўзроўню, што ўрэшце адштурхнула аматараў ад такіх канцэртаў. Але цяпер, дзякуючы працэсам адраджэння ў нашай культуры, гітара вяртаецца на філарманічную сцэну, тым болей, што з'явілася і адпаведная зала на Залатой Горцы. Гітара ж — інструмент, я б сказаў, народны міжнародны, бо гэта класічны інструмент. Цяжка назваць цывілізаваную краіну, дзе б гітара не карысталася папулярнасцю. Папулярнасць яе, на мой погляд,— сведчанне высокай цывілізаванасці той ці іншай краіны, узроўню яе культуры. Думаю, у нас зараз спрыяльная часіна для гітарнага мастацтва. І ў Валодзі Захарава ёсць перспектыва канцэртнай дзейнасці, яго пачнуць запрашаць на гастролі, на фестывалі; важна, што ён зрабіў шэраг запісаў на радыё. Я б хацеў, каб ягоны ўжо крылаты выраз — маўляў, без сваёй музыкі, без нацыянальнага рэпертуару мы — нішто, ім не забываўся, каб Валодзя дзейнічаў у адпаведным напрамку, працягваў пісаць музыку.

**— Валеры, а вы ж таксама выказаліся амаль крылатай фразай, падчас Валодзевага выступлення: «Трэба адгукацца ў друку на кожны канцэрт».**

— А мне спадабалася, як вы потым развілі гэтую думку: маўляў, на кожны ці не, але каб для будучых даследчыкаў захавалася найбольш поўная карціна мастацкага нашага жыцця, каб з таго ж «ЛіМа» можна было даведацца, якія жылі музыканты, дзе яны выступалі, што ігралі...

**— Бо калі ў летапісе культурнага жыцця будуць прагалы (а газеты ў пэўным сэнсе — гэта летапіс), гісторыя нам не даруе.**

Уладзімір ЗАХАРАЎ падчас канцэрта ў Мінску 29.XII.92 г.
Фота С. БУРАВА.

— Абсалютна правільна! Не так даўно я збіраў матэрыялы пра Марка Сакалоўскага, частку якіх скарыстаў потым у артыкуле для «ЛіМа». Усе біёграфы знакамітага гітарыста пішуць пра тое, што вельмі мала захавалася інфармацыі. І трэба было перагарнуць процьму газет, часопісаў, каб пераканацца, што карыстаючыся публікацыямі тагачаснага друку, ужо можна зрабіць маленечкую манаграфію пра Сакалоўскага. Я лічу, што зараз для беларускай гітары гістарычны перыяд, перыяд адраджэння гэтага мастацтва з даўнімі на нашых землях традыцыямі. І абавязкова трэба пісаць пра гітару як мага больш!

**— Згода. Аднак гэта можна сказаць і пра кожны інструмент...**

— Пра кожны. Ну, а ў прыватнасці — пра мой, кожны ж кажа пра тое, што яму бліжэй.

**— Пагаджаюся цалкам. І дзякую за размову.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

НОТАДРУКІ

# НА РОДНАЙ МУЗЫЧНАЙ МОВЕ...

ашчадліва працаваць з фальклорам, клапоціцца пра тое, каб крохкая прыгажосць старадаўніх напеваў не панікла пад складанай сучаснай гарманізацыяй і фактурнай апраткай.

Шырока прадстаўлены беларускія кампазітары, творчасць якіх заснавана на фальклорнай стылістыцы: А. Багатыроў, П. Падкавыраў, А. Клумаў, Р. Сурус і інш. Майстэрства кампазітара, які піша дзіцячую музыку, павінна праявіцца ў тым, каб змест п'ес эмацыянальна быў даступны і прываблівы для дзяцей. Але асабліва хочацца падкрэсліць яшчэ адну абавязковую ўмову — здолець надзяліць задуму піяністычна цікавай фактурай, зручнай для выканання. Піяністычнасць выкладання — гэта не сінонім спрошчанасці, тут патрэбна веданне спецыфічных прафесійных тайн. У гэтых адносінах вылучаюцца ансамблі для двух фартэпіяна У. Алоўнікава.

Дапаможнік скіраваны таксама на дзіцячую творчасць і можа трактавацца як першыя ўрокі кампазіцыі.

Заданні для развіцця слыху адначасова звернуты да музычнага мыслення. Стварэнне музыкі памагае лепш выканаць яе. Так злучаны цэлы комплекс праблем. Падкрэслю скіраванасць на засваенне вучнем беларускіх народных інтанацый, рытму, мелодый. Акрамя таго, на нотных старонках адбываецца творчая сувязь з буйным сучасным беларускім кампазітарам, які сілай таленту, мастацкім густам уздымае маленькага піяніста да сваіх вышыняў, бярэ яго «на сваё крыло».

Г. Вагнер шчодра дэманструе варыянты мелодый, фактуры і нават цыклы варыяцый. Такая нагляднасць выклікае творчы імпульс у адказ, жаданне стварыць штосьці сваё. А ўласна творчыя заданні заканчваюцца навучаннем пабудове варыяцыйнай формы. Цікавая і «размова» вучня з настаўнікам пры дапамозе музычных рэплік.

Комплексны падыход да выхавання музыканта - выканаўцы, адлюстраваны ў зборніку, сведчыць пра сучаснае бачанне педагагічных задач.

Нацыянальнае гучанне зборніка ўзмацняе слоўнік музычных тэрмінаў на беларускай мове. Сёння, калі мы адраджаем культуру нашай рэспублікі, гэта асабліва каштоўна. Бо ў музыцы, як і ў іншых спецыяльных навуковых галінах, па сутнасці не распрацаваны тэрміналагічны апарат на беларускай мове.

У прадмове аўтары называюць сваю працу Школай далучэння да беларускай народнай творчасці; слушна наракаюць на абмежаваную колькасць выданняў для пачатковага выхавання, заснаваных на беларускім музычным фальклоры. (Ды тыраж і гэтага зборніка толькі 6 тыс.). Відавочна, што аўтарамі кіравала ідэя стварэння нацыянальнай беларускай фартэпіяннай школы. Але разам з тым «больш вузкія метадычныя пытанні, звязаныя з пастаноўкай ігравога апарата, аўтары не разглядаюць» (стар. 3) і рэкамендуюць развіваць выканаўчыя навыкі на матэрыяле Школ іншых народаў.

Думаецца, што на падставе свайго вучэбнага дапаможніка, скампанаваўшы яго ў метадычных адносінах, аўтары змогуць у будучым стварыць фундаментальную ў піяністычных адносінах Школу для дзяцей Беларусі.

**Р. НОВІКАВА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

Уладзімір КАЛЕСНІК

# НА ВЫШЫНІ АБСУРДУ

## Паўліна і спакуснікі

МОЖНА зразумець пэўную гарачлівасць сённяшніх беларускіх адраджэнцаў, калі яны, жадаючы навесці справядлівасць у гісторыі, засыпаюць чытачоў сенсацыямі, як той пажарнік у Крапівы, «што праз дурную спешку, сам закінуў у стружкі галавешку» і застаўся без хаты. Прыгадваецца кур'ёзная асечка маладога журналіста, што на прэс-канферэнцыі Міжнароднага кангрэса беларусістаў пракукарэкаў: «Хутка будуць апублікаваны дакументы з сакрэтных фондаў архіва КДБ і свет даведаецца, што дзеячы БНР атрымлівалі грошы ад польскага, літоўскага і савецкага ўрадаў» (назваў лідэраў, якія, выходзіла, былі карумпіраванымі паслугачамі чужых дзяржаў). Выкрывальніка паставіў на месца спадар Вітаўт Кіпель, старшыня беларускага навуковага Цэнтра ў ЗША, растлумачыўшы прысутным, што субсідзіраванне палітычных праграм і партый зацікаўленымі асобамі і арганізацыямі — нармальная з'ява ў грамадска-палітычным жыцці. Адсюль вынікала, што ёсць сітуацыі, пра якія мала паведаміць, трэба раскрыць, дайсці да прычын і мэт. Здавалася, што той інцыдэнт на Кангрэсе паслужыць навукай ці хоць конаўкай халоднай вады, якая астудзіць гарачыя галовы, каб не паролі гарачкі і замест таго, каб запаўняць белыя плямы, не нарабілі новых на чыстым месцы.

Сумніцельнай сенсацыяй падалася мне ўстаўленая ў сцэнарый памянёнага тэлефільма без каментарыяў (калі не лічыць каментарыем з'едлівы тон і зларадны падтэкст) прызнанне Паўліны Мядзёлкі, якая нібыта згадзілася супрацоўнічаць з кіраўніком ОГПУ Беларускай ваеннай акругі Юзэфам Апанскім і яго службай: «В 1927 году я дала обязательство ГПУ БССР о том, что не буду разглашать имевших место разговоров со мной о моем сотрудничестве с ГПУ. Эти разговоры со мной вёл Опанский и Андреев.

В июне 1930 г. в Горецкую академию приехал сотрудник ГПУ Чернышев. Он мне сообщил, что в Белоруссии имеется контрреволюционная организация националистической окраски с ориентацией на Польшу. В заключение он мне предложил участие в раскрытии этой организации. Я на это ответила согласием»...

Пры першым чытанні тэкст мне паказаўся агентурным матэрыялам, доступу да якога не даюць пісьменнікам. Мне, прынамсі, нават пратаколаў допыту Мядзёлкі не далі, сказалі, што іх няма. Цяпер я ведаю, што ёсць. Аўтары ўзялі прыведзеную цытату з пратакола допыту Паўліны, арыштаванай па справе СВБ летам 1930 г. у Маскве. Інфармацыя па сутнасці агентурная, а засталася сярод пратаколаў допыту па той прычыне, што іх не перадавалі ў суд. Абвінавачаных не судзілі, ім назначалі кару завочна члены надзвычайнай камісіі або «тройкі», куды ўваходзілі кіраўнікі таго ж ГПУ плюс функцыянеры партапарату. З такой герметычнай ёмкасці і агентурныя звесткі не выцякаюць. Я памыліўся, бо перанёс на савецкую следча-судовую сістэму правілы, прынятыя ў даваеннай Польшчы. Работнікі дэфензівы ахоўвалі сваіх канфідэнтаў надзейней.

Як гром, выбухнула прызнанне Паўліны, бо яна ж увасабляла для мяне жывы этычны эталон адраджэнскага руху. Мне, як літаратару, давялося чуць і чытаць пра яе многа добрага і толькі добрага. А тут... А тут — агентка ГПУ без каментарыяў. Ізноў ваўкалачка? Не хацелася верыць. Прыгадалася нататка з «Нашай Нівы» са студзеньскага нумара 1992 г. Там было напісана, што літоўская газета «Lietuvas Hidas» пасля разгляду справы палітычнага дзеяча Віргілія Чапайціса па справе супрацоўніцтва з КДБ надрукавала артыкул, у якім прапанавала ўлічваць пяць стадый магчымага супрацоўніцтва з гэтай службай. Між іншым, трэцяя стадыя — гэта тое, калі чалавек не хацеў супрацоўнічаць, але не мог катэгарычна адмовіцца, хоць і ніякай карысці КДБ не прынёс, а чацвёртая — калі не хацеў супрацоўнічаць, але пад ціскам і запалохваннем згадзіўся, аднак працаваў толькі пад наглядам, без карысці для КДБ. Толькі пятая стадыя падводзіць чалавека пад суд — калі актыўна дзейнічаў на месцы працы, у грамадскіх і палітычных арганізацыях. Літоўская газета прапануе «публічна пакаяцца толькі тым людзям, якія належаць да пятай групы, бо менавіта сярод іх могуць быць тыя, чые дзеянні можна кваліфікаваць як злачынства». Літоўская шкала вінаватасці выглядае, можа, крыху лішне міласэрнай, крыху пацешнай, але ідэя закладзена ў ёй слушная: нават у пятай стадыі могуць трапіцца людзі, якіх нельга лічыць свядомымі злачынцамі. Злачынства прадугледжвае факты, дзеянні, і даказаць іх трэба судом, бо гісторыя ведае прыклады, калі адлучалі ад годнасці выдатных людзей за адну згоду на супрацоўніцтва з тайнымі службамі ці па шантажу самой спецслужбы. Горкі прыклад — справа пісьменнікаў Юзэфа Крашэўскага і Станіслава Бжазоўскага. Варта яшчэ мець на ўвазе, што ў адносінах да людзей творчых жорсткая ці несправядлівая кара абарочваецца абкраданнем грамадства, якое не атрымае жаданых і патрэбных творчых набыткаў.

А як было з Паўлінай?

У следчай справе І. Краскоўскага падшыты пратакол допыту за 21 ліпеня 1930 г. і стэнаграма допыту за 23 ліпеня 1930, праведзеных маскоўскімі следчымі высокага рангу Славацінскім і Радзівілоўскім. Ад арыштаванага патрабавалі расказаць пра сувязі Саюза вызвалення Беларусі (чытай — мінскай адраджэнскай сябрыны) з ОГПУ. Натуральна, у цэнтры аказаліся Паўліна Мядзёлка і Пятро Ільючонак. Пачнём знаёмства са стэнаграмай, бо ранейшы пратакол допыту быў як бы рэпетыцыяй перад тым, які стэнаграфаваўся.

Славацінскі: — СВБ пыталась установить связи с ОГПУ? Через кого и как?

Краскоўскі: — Да, некоторая информация нам протекала через некого Ильючонка, ибо такие, как он, были вхожи в ОГПУ.

Славацінскі: — Вы помните, что на одном из банкетов или заседаний СВБ на квартире Купалы он заявил, что он работал по специальному заданию ОГПУ и как реагировал на это центр?

Краскоўскі: — Ничего серьезного не было. Было так: если ты работаешь и что-нибудь мог бы там делать — делай.

Славацінскі: — Значит, центр давал задания Ильючонку информировать его о линии ОГПУ? Или дезориентировать ГПУ?

Краскоўскі: — На одном заседании центра Ильючонок говорил, что он близок к ГПУ, и ему было на это сказано, что пусть продолжает информировать нас о том, что знает.

Радзівілоўскі: — А что дальше, а если у него будут спрашивать про СВБ?

Краскоўскі: — То тогда он должен был дезориентировать ГПУ.

Радзівілоўскі: — Кто из работников ГПУ являлся источником такой информации?

Краскоўскі:—Может быть центру и было известно. А я не знаю.

Радзівілоўскі: — Что вам известно о том, что летом этого года приезжали из ГПУ в Горки и беседовали снова с Мядзёлко?

Краскоўскі: — Я говорил, что это было один-два раза и она не называла фамилию.

Славацінскі: — Она сказала, что приезжал к ней сотрудник и предложил ей работать на организацию, которую надо выявить? Она об этом поставила в известность центр?

Краскоўскі: — Да.

Радзівілоўскі: — А вот, припомните, пожалуйста, фамилию этого сотрудника.

Краскоўскі: — Я не знаю (т. 4. С. 213)[1].

Калі я чытаў гэты тэкст упершыню, дык здзівіла мяне неўразумелая адаптаванасць адраджэнскай эліты да следчых ГПУ. Выглядала, што дзеячы Адраджэння не баяліся гэтай установы і на супрацоўніцтва з ёю глядзелі паблажліва. Мяне, прывыклага бачыць зусім іншае стаўленне да спецслужбаў і тайных сувязяў у заходнебеларускім вызваленчым руху, дзівіла і абурала бесклапотнасць мінскай адраджэнскай эліты. Зразумець сітуацыю дапамагло адно пісьмо Юрыя Раманейкі, былога афіцэра царскай службы, а ў 20-я гады кааператыўнага вараціла высокага рангу да свайго пляменніка Уладзіміра Жылкі, які быў на эміграцыі ў Празе і хацеў вярнуцца на радзіму, але пабойваўся ГПУ. Кааператар, які займаўся экспартам збожжа на Захад цераз чарнаморскія порты і напэўна ж сутыкаўся па рабоце з мытняй і пагранічнымі службамі, супакойваў пляменніка: «ГПУ ці што ў эміграцыйных колах называюць ЧК выдатна разбіраюцца ў гэтых пытаннях і напэўна не паставяць табе перашкодаў, таму што рэабілітаваць цябе няма ў чым». Прыгадваючы гэтую мясціну з пісьма, я паспрабаваў глянуць і на мінскія адраджэнскія норавы з іншага боку. Сапраўды, паблажлівасць да Ільючонка і Паўліны магла азначаць і высокі ўзровень даверу, які панаваў у сябрыне.

Урывак з допыту Краскоўскага 21 ліпеня напісаны сваім арыштаваным як бы сачыненне на зададзеную следчымі тэму. Гэта была як бы трэніроўка перад стэнаграфаваннем адшліфаванага допыту: «Паўліна Мядзёлка, гады тры таму назад, — піша Іван Ігнатавіч, — у адным ці ў двух выпадках расказала мне пра тое, што яе выклікалі ў ГПУ Беларусі, дзе з ёю тав. Апанскі вёў бяседу, жадаючы атрымаць ад яе інфармацыю аб становішчы ў нацыянальна-дэмакратычных колах і пра тэндэнцыі з боку ГПУ выкарыстаць яе ў гэтым накірунку надалей. Яна паведаміла мне, што адмовілася ад якой-небудзь сувязі з ГПУ і ад яе ўзялі падпіску «о неразглашении». Пра гэта Мядзёлка расказвала мне на кватэры. Пра гэты факт Янку Купалу было таксама вядома са слоў Паўліны Мядзёлкі. Я параіў Мядзёлцы паскорыць свой пераезд у Горкі і гэтым самым сысці з мінскага гарызонта, з поля зроку ГПУ. У выпадку ж, калі ад яе будуць патрабаваць інфармацыі пра нашу работу, дык яна павінна катэгарычна адмаўляцца ад выканання гэтых патрабаванняў. Цэнтр СВБ з гэтаю маёю ўстаноўкай згадзіўся» (т. 4. С. 186).

Што ж, за выключэннем апошняга сказа пра санкцыяніраванне парады, якое з'яўляецца перастрахоўкай, прызнанне Краскоўскага можна лічыць праўдзівым. Краскоўскага дапытвалі некалькі разоў аб сувязях адраджэнскага асяроддзя з ГПУ, стараючыся дабіцца не так праўды, як закласці ў памяць адказы, змест якіх хацела пацвердзіць следства, а яно вывудзіла гэта ў другіх інфарматараў ці загнала сілаю ў іх паказанні. Меркаваць так дае падставы тое, што паказанні ў ходзе допытаў адшліфоўваліся, станавіліся больш звязанымі, як фабулы. З ранейшых паказанняў І. Краскоўскага помніцца вось такое: «Мне перадавала П. Мядзёлка, што да іх у Горкі прыязджаў работнік ГПУ і ставіў перад ёю пытанне аб тым, што яна павінна «содействовать» ГПУ у раскрыцці існаваўшай нелегальнай ячэйкі нацдэмаўскай арганізацыі. Асобным членам СВБ, у прыватнасці Смолічу, Трэмповічу, я расказаў аб гэтым».

Супрацоўнік ГПУ Чарнышоў прыехаў у 1930 годзе ў Горкі з двума языкамі ў роце: адным, ласкавым, угаворваў Паўліну супрацоўнічаць, дапамагчы выкрыць контррэвалюцыю, а другім цкаваў Паўліну сваімі ж агентамі з ліку слухачоў рабфака сельгасакадэміі.

Д'ябал быў грозны, а заданні сцішаныя, калі дзёрзкая Паўліна кінулася наўцёкі ў санаторый, а потым затрымалася ў Маскве, у сяброўкі, дзе яе арыштавалі неўзабаве пасля І. Краскоўскага.

Чарнышоў — гэта адзін з тых «ударнікаў» следчай службы, што перавыконвалі нават Сталінавы планы паставак ворагаў народа, давялі вакханалію рэпрэсій да такой вышыні абсурду, што сам правадыр знайшоў патрэбным пажурыць руплівцаў за «головокружение от успеха». Праз два гады, як відаць з дакументаў архіва, Чарнышоў з крэсла опера перасеў у крэсла начальніка следчага аддзела ГПУ па Беларускай вайсковай акрузе і ў гэтым званні стварыў другі, куды большы абсурдны і пачварны следчы працэс па справе БНЦ. Гэта ён асабіста дапытваў Сымона Рак-Міхайлоўскага і ператварыў чыстага душою асветніка і дзеяча вызваленчага руху Заходняй Беларусі ў агента польскай дэфензівы, кіраўніка шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі ў БССР. Ці сам Чарнышоў згарадзіў сюжэцік, ці так «изнурил» сваю ахвяру, што яна азвалася помслівым д'ябальскім трызненнем, пляла, нібыта беларускі і ўкраінскі лева-радыкальныя клубы ў польскім сейме былі толькі бутафорыяй, якая прыкрывала контррэвалюцыйную тэрарыстычна-дыверсійную арганізацыю. Яе, маўляў, стварылі па заданні польскага Генштаба прадажныя паслы польскай лявіцы, камуністы Сахацкі і знаёмы нам Сільвестр Ваявудскі. Сапраўды, трэба быць поўным прафанам, каб плесці такое. Але ж версіі Чарнышова прайшлі ў ведамстве Рапапорта без рэкламацый. Бравая «тройка» засудзіла мнімых завадатараў на смерць з заменай кары на дзесяць гадоў працоўных лагераў. Унікальнае ўраўненне: 10 гадоў зняволення і смерць — гэта тое самае?! А засуджанымі ж былі заходнебеларускія паслы і дзеячы грамадоўскага руху, у большасці абмяняныя савецкім урадам за эквівалентных савецкіх вязняў з польскім бокам. Іх усё роўна расстралялі ў 1937 годзе па рашэннях новых «троек» у іншых канцах СССР.

Інтуіцыя не падвяла Паўліну, толькі трэба было не ў санаторый уцякаць загнанай д'яблам, а скінуцца шэраю зязюляй ды паляцець адвечным шляхам пакрыўджаных свёкрамі нявестак у матчыны сады, дадому-дахаты. Яна такі прыляціць у Будслаў, але пасля вайны, каб дагледзець мамінай старасці і аддаць роднаму кутку хоць частку напрацаванага вопыту настаўніцы і асветніцы, разбудзіць таленты ў землякоў, вывесці іх у харавым калектыве на менскую сцэну.

Дапытаная ў 1956 годзе ў Менску дзеля рэабілітацыі следчым Кірычэнкам Паўліна Мядзёлка паведаміла: «Чыстасардэчна заяўляю, што аб існаванні контррэвалюцыйнай арганізацыі СВБ я ўпершыню пачула ў 1930 годзе ад следчых, якія мяне дапытвалі, а таксама з паказанняў арыштаванага Краскоўскага, якія давалі мне чытаць следчыя. Памятаю, Краскоўскі ў сваіх паказаннях сцвярджаў, быццам у Менску была такая арганізацыя і што ў гэтую арганізацыю ён прыцягнуў мяне. Я не ведала тады і не ведаю цяпер, ці была яна ў прыродзе, але тое, што Краскоўскі мяне нікуды не вербаваў і я да гэткай ці падобнай арганізацыі ніколі не належала — дык гэта я ведаю.

На следстве ў 1930 годзе я вымушана была пацвердзіць паказанні Краскоўскага (у якой форме — не памятаю) аб сваёй прыналежнасці да СВБ.

Прыкладна 10 дзён без перапынку мяне дапрошвалі з 10 гадзін вечара да 5—6 гадзін раніцы, не даючы мне часу для сна, і я была фізічна змардаваная.

Будучы змардаванай фізічна і маральна, не здаючы сабе справы, я падпісвала складзеныя следчымі пратаколы з маімі «прызнаннямі». Што было напісана ў гэтых пратаколах, я не памятаю, бо тады, калі я знаходзілася ў турме, я была абыякавая да свайго лёсу і падпісвала ўсё, што мне давалі».

«Яшчэ дзейнічаў на мяне, — піша яна ва ўспамінах[2], — той маральны націск, якім стараліся зламаць маю волю ў Маскве, то звяртаючыся да маіх шчырых адносін да савецкай улады і даказваючы патрэбу самаахвяры, то асыпаючы мяне кпінамі над усім, што было святым у маёй душы». Яе дэзарыентавалі «неўразумелыя паводзіны нашых дзеячаў, якія прызнаваліся ў тым, чаго не было». Прывыклая давяраць важакам, Паўліна гублялася ў здагадках. «Можа, Краскоўскі і праўду сказаў аб сабе? Ён такі себялюбец, прагны да кіраўнічай ролі. Але нашто ён плёў пра «контррэвалюцыйную арганізацыю Адраджэнне ў 1912 годзе»? Між ішым, гэтай інфармацыі ў захаваных пратаколах следства І. Краскоўскага няма, ці не паходзіць яна з таго першага пратакола допыту за 1 ліпеня 1930 году, які толькі названы ў змесце 4-га тома справы, а ў падшыўцы адсутнічае? Вось новы вузельчык для пошукаў і здагадак. Цікава ўбачыць, з чаго пачынаў споведзь Іван Ігнатавіч, ведаючы, чым яе закончыў.

Заканчэнне. Пачатак — у папярэднім нумары.

